

# Беларус

*Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!*
Францішак Багушэвіч (1840-1900)

№ 368 Сакавік 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00

## ЧАТЫРЫ ПАТРАБАВАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ



***«ШТАНДАР НАШ БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ ПАКРЫЎ САБОЙ НАРОДНЫ РУХ»...*** *Сто тысячаў народу выйшлі на цэнтральную плошчу Менску 25 лютага 1990 г. з дамаганьнямі скончыць у Рэспубліцы ўладу «палітычных банкротаў».*
Здымак з газэты «Чырвоная зьмена» (27.II).

*Прамова Зянона Пазьняка, старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» на мітынгу ў Менску 25 лютага 1990 году.*

Дарагія грамадзяне!

Наша Рэспубліка перажывае крызіс. Адміністрацыйная сыстэма вычарпала свае магчымасьці. Нашае грамадзтва разьдзялілася на дзьве часткі: з аднаго боку КПСС, з другога боку Беларускі Народны Фронт, дэмакратычныя арганізацыі і ўся дэмакратычная грамадзкасьць. Такое становішча нельга прызнаць карысным, таму што напружаньне можа ўзрастаць да той пары, пакуль ня станецца канфлікт. Таму трэба рабіць усе захады, каб своечасова ставіць пытаньні. І вось Беларускі Народны Фронт яшчэ два месяцы назад рыхтаваў гэты мітынг, як перадвыбарчы мітынг. Але сам час паказаў, што трэба было правесьці яго, каб гэтыя пытаньні паставіць, каб папярэджаныя былі тыя, хто супярэчыць рэформам; тыя, якія кансэрватыўныя; тыя, якія лічаць, што гаспадар на сваёй зямлі ня той, хто працуе і вытварае, а той, хто кіруе. Гэта трэба ведаць усім, каб шукаць мэтады, каб шукаць выхад.

Мы — культурны народ. У нас тысячагадовая гісторыя. І наш ідэал — ня Румынія, а Чэхаславакія. Мы павінны выйсьці з гэтага стану, як дастойныя людзі, мы павінны выйсьці да нашай культурнай будучыні. І мы выйдзем. Ёсьць уся надзея. Але яна ня будзе спраўджана датуль, пакуль ня будуць спраўджаны карэнныя пытаньні: у чыіх руках улада і хто гаспадар на нашай зямлі? Улада у руках КПСС, у руках манапольнай намэнклятуры, і пакуль гэта ня будзе вырашана, пакуль народ ня будзе гаспадаром, да гэтага часу нас будуць карміць толькі абяцанкамі і да таго часу нічога ня зьменіцца.

Бяда яшчэ ня толькі ў тым, што кампартыя Беларусі самая кансэрватыўная, самая рэакцыйная, самая антынародная, бяда ў тым, што яе ідэялёгія — нацыянальны нігілізм. Гэта адзіная партыя з усіх рэспубліканскіх партый, ідэялёгія якой аснована на няпрызнаньні свайго народу, свае культуры, свае мовы. За дзесяткі гадоў гэта яны давялі наша грамадзтва да такога стану, што мы згубілі сваю гісторыю, забылі сваю Бацькаўшчыну, забываемся сваю мову, і калі грымнула чарнобыльская катастрофа, мы сталі безабароннымі, таму што ў нас зьнікае нацыянальная сьвядомасьць, Мы перасталі адчуваць сябе народам, мы перасталі адчуваць сябе еднасьцю, а яна так неабходная, калі над народам навісае бяда. Таму нашае нацыянальнае адраджэньне яно ёсьць і адраджэньне культурнае, і эканамічнае, і палітычнае. І зараз, калі народ прачнуўся, мы стаім на парозе вялікіх перамен.

Я гісторык. За ўсю гісторыю чалавецтва ня было больш злачынный арганізацыі, чым тая арганізацыя, якая заснована на ідэялёгіі марксызму, ленінізму, сталінізму, мааізму. *(даўгія воплескі)* Яны залілі крывёю палавіну плянэты, яны зьнішчылі дзясяткі міліёнаў людзей, яны зьнішчылі цэлыя народы, растапталі культуру, растапталі рэлігію, нашую мараль. Але чалавек моцна зроблены Богам. Мы адраджаемся, мы адродзімся, і гэтая цёмная сіла спадзе.

*(Працяг на 2-й б.)*

## ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ У ВС БССР

**Перамагаюць кандыдаты БНФ**

Чацьвертага сакавіка на Беларусі адбыўся першы тур выбараў у Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы Рэспублікі. Змаганьне за мандаты разгарнулася паміж дзьвюмя рэальнымі палітычнымі сіламі, якія існуюць на сёньняшні дзень: Беларускім Народным Фронтам і Камуністычнай партыяй Беларусі. Так званыя «незалежныя» дэпутаты, якія выступаюць ад уласнага імя і не карыстаюцца падтрымкай ні Фронту, ні партыі, не атрымалі колькі-небудзь сур'ёзнага падтрыманьня ад народу. Яны набралі ня больш як па 10-15% галасоў. Пацярпелі паразу і аматары так званых «круглых сталоў» з уладамі — прадстаўнікі аб'яднаньня «Дэмакратычнае Адзінства». Такім чынам, кандыдаты, якія выразна не акрэсьлілі сваёй палітычнай пазыцыі, пакінулі выбарчы «марафон».

Найбольш поўная інфармацыя паступіла аб Менску. Зь першага туру прайшлі ў ВС Рэспублікі старшыня Сойму БНФ Зянон Пазьняк (59% галасоў), старшыня камітэту БНФ «Дзеці Чарнобыля» Генадзь Грушавы (56%), галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і Мастацтва» Анатоль Вярцінскі (53%), сьледчы Ганчар (58%). Пацярпелі паразу наступныя кандыдаты ад Беларускага Дэмакратычнага блёку: віцэ-прэзыдэнт Беларускага Экалягічнага Саюзу Яўген Пятраеў, сябра БНФ эканаміст Яўген Злотнікаў, сябра БНФ Мікалай Якімовіч. У астатніх 45 акругах гораду адбудзецца паўторнае галасаваньне.

Паводля колькасьці галасоў атрыманых у першым туры, папераздзе ідуць сябры й прыхільнікі БНФ.

Першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў і старшыня ВС БССР Мікалай Дзеяньцей пабаяліся выставіць свае кандыдатуры ў Менску. Сакалоў балатаваўся па Столінскай сельскай выбарчай акрузе, а Дзеяньцей — па сельскай акрузе ў Віцебскай вобласьці, дзе яны таксама былі абраныя ў ВС БССР.

Другі тур выбараў мае адбыцца 17-га сакавіка.

*(Паводле матар'ялаў Беларускае сэкцыі радыё «Свабода»)*

## РАСКАЗВАЕ ЎДЗЕЛЬНІК МІТЫНГУ

*У інтэрв'ю, якое ўзяў 26 лютага карэспандэнт Беларускае сэкцыі радыё «Свабода» Васіль Крупскі ў народнага дэпутата СССР, прарэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту праф. Станіслава Шушкевіча, др. Шушкевіч расказаў пра мітынг, у якім ён браў удзел.*

**Станіслаў Шушкевіч:** Учора быў вялікі мітынг у горадзе Мінску — санкцыянаваны, на цэнтральнай плошчы імя Леніна. І на гэты мітынг, па маіх ацэнках, сабралося каля ста тысяч чалавек. Пляц памерам сто пяцьдзесят на сто пяцьдзесят мэтраў быў цалкам забіты людзьмі, а яшчэ было й навокала многа людзей. І абмяркоўвалася адно пытаньне: падрыхтоўка да выбараў і парушэньні Закону аб выбарах, таму што па пераканаваньню многіх нашых грамадзкіх арганізацыяў, па пераканаваньню Беларускага Народнага Фронту, па майму асабістаму пераканаваньню, такія парушэньні мелі месца, і хацелася-б, каб яны былі выпраўленыя.

На мітынг прыйшлі кіраўнікі нашага ўраду і нават першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі Яфрэм Яўсеевіч Сакалоў. Народ парознаму рэагаваў на выступленьні. Але падтрымку Беларускі Народны Фронт меў цалкавітую і яго пазыцыя таксама цалкавіта падтрымлівалася. Была прынятая рэзалюцыя. Па кожнаму пункту было асобнае галасаваньне, і рэзалюцыя была прынятая адзінадушна.

Увечары па цэнтральнаму нашаму рэспубліканскаму тэлебачаньню быў зачытаны зварот ад імя мітынгу. Яго зачытаў Зянон Пазьняк, таму што мітынг патрабаваў, каб гэта было зроблена, а пасьля гэтага была вельмі працяглая прэсканфэрэнцыя, а інакш гаворачы, гэта не канфэрэнцыя, але ўсе тыя, хто ня згодны з тым, аб чым заявіў мітынг, усе тыя нашы кіраўнікі селі дружна ля стала і гаварылі, які дрэнны фактычна быў мітынг, як народ дэзарыентаваны, як ён не разумее, што палітыка нашага ўраду дасканалая і лепшай нам жадаць ня трэба. Гэты фарс маглі наглядаць усе ў нашай рэспубліцы. Вось толькі аб гэтым я шкадую: на жаль, сапраўднай размовы аб мітынгу ў сродках масавай інфармацыі пакуль што — а магчыма гэта будзе папраўлена — пакуль што я ня бачу.

**Васіль Крупскі**: Спадар Шушкевіч. Ваша ацэнка гэтай падзеі. У многіх заявах, у многіх тэлефонных званках да нас заяўлецца, што гэта гістарычная падзея для беларускага народу, для працэсу дэмакратызацыі. Як Вы лічыце?

**С. Ш.**: Я лічу, што гэта... для мяне падзея нечаканая. Ведаеце, я павінен сказаць, што я вельмі ганаруся тым, што я Беларус і ганаруся нашым беларускім народам. Але я не спадзяваўся, што ён праявіць такую вытрымку, такі спакой. Не дазволіць ні ў адным

*(Працяг на 2-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Янка Запруднік**

# УСТАЎНЫЯ ГРАМАТЫ РАДЫ БНР І СУЧАСНЫЯ ПАДЗЕІ НА БЕЛАРУСІ

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, якая свой юрыдычны пачатак узяла ад Першага Ўсебеларускага Зьезду (кангрэсу), скліканага ў Менску ў сьнежні 1917 году (і разагнанага бальшавікамі), пакінула па сабе тры прынцыпова важныя дакумэнты, тры Ўстаўныя Граматы.

**Першаю Ўстаўной Граматай** абвешчанай 21 лютага 1918 г., Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду, «папоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў, зьдзяйсьняючы мэты Зьезду», абвесьціў сябе «часовай уладай на Беларусі для кіраваньня краем і скліканьня, як можна хутчэй, Усебеларускага Ўстаноўчага Сойму на аснове агульнага права для ўсякага дарослага, ня лічучыся з нацыянальнасьцю, вызнаньнем і родам».

**Другая Ўстаўная Грамата,** выдадзеная 9 сакавіка 1918 г., пастанаўляла «аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў». Гэта тое, што можна назваць Канстытуцыяй Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй восем пунктаў.

Першы пункт абвяшчаў Беларусь «Народнай Рэспублікай».

Другі паўтараў тое, што было сказана ў першай Устаўной Грамаце — што законы будуць зацьверджаныя Ўстаноўчым Соймам Беларусі, скліканым на дэмакратычных асновах.

Трэйці пункт казаў, што ў міжчасе ўлада на Беларусі належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду.

Чацьверты — што выканаўчая ўлада належыць «Народнаму Сакратарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду».

У астатніх чатырох пунктах былі сьцісла выкладзеныя грамадзянскія свабоды й прынцыпы дзяржаўнага ладу БНР. У сьвятле сёньняшніх падзеяў у Цэнтральнай Эўропе і ў Савецкім Саюзе, упаасобку на Беларусі, другая Ўстаўная Грамата Рады БНР набывае нязвычайнае палітычнае важнасьці: яна паказвае, у якім кірунку трэба ісьці, чаго дамагацца, шукаючы выйсьця з крызісу, да якога прывёў бальшавізм зь яголым расейска-вялікадзяржаўніцкім характарам.

Вось гэтыя грамадзянскія свабоды, абвешчаныя другой Устаўной Граматай:

«5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

«6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію: абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

«7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае ўласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

«8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольшы 8-гадзінны рабочы дзень».

**Трэцяя Ўстаўная Грамата** (Акт 25 Сакавіка), прынятая на золку 25 сакавіка 1918 году, абвяшчала Беларускую Народную Рэспубліку «незалежнаю і вольнаю дзяржавай» і заяўляла: «Самі народы Беларусі ў асобе Ўстаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі».

Як бачым, дэмакратычны характар дзяржаўнага будаўніцтва, якое праводзіла Рада БНР, быў пасьлядоўна вытрыманы да канца. Нават канцэпцыя незалежнасьці ня была дагматычнай — незалежнасьць ня ставілася як самамэта, а толькі як перадумова, каб забясьпечыць абставіны, у якіх «самі народы Беларусі» пастановяць «аб будучых дзяржаўных зьвязах Беларусі».

Сучасная беларуская дэмакратыя, якая адроджваецца й набірае моцы і вязе ўзяла сабе за сымбалі БНР-аўскія бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню», паказвае гэтым, што яна ідзе ў правільным кірунку, што яна ў арганічнай сувязі із здаровымі элемэнтамі свае мінуўшчыны. Дзеячы сучаснага нацыянальнага Адраджэньня на Беларусі ведаюць, што дрэва беларускае дзяржаўнасьці можа расьці трывалым толькі на глебе духовае лучнасьці з усімі пакаленьнямі свайго народу, ад Рагвалода й Рагнеды, сьв. Еўфрасіньні Полацкай і сьв. Кірылы Тураўскага і да аўтараў Устаўных Граматаў Рады БНР, тварцоў Акту 25 Сакавіка. Наш народ, шукаючы сёньня выйсьця з пацёмкаў марксызму-брэжневізму, варочаецца паступова да сваіх адвечных караёну, да сваіх вялікіх продкаў, усьведамляе сабе, што зьнітаванасьць пакаленьняў — гэта крыніца духовае сілы і зарука лепшай будучыні. □

> «Сёньня настала пара сказаць, што не апошнюю (а можа, нават і рашаючую ролю ва ўтварэньні БССР адыграла абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году. Існаваньне БНР, хоць бяспраўнай і паралізаванай, патрабавала аналягічных дзейсных, эфэктыўных контрмераў, каб ня даць ёй магчымасьці зрабіцца адзіным цэнтрам кансалідацыі нацыянальных сілаў у супярэчлівых і зьменлівых умовах вайны».
>
> Уладзімір Казьбярук. Па-за межамі нацыянальнага?, *«Літаратура і Мастацтва», 9.II.1990)*

# ЧАТЫРЫ ПАТРАБАВАНЬНІ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Я думаю, што ў такой сытуацыі ў гэтай арганізацыі ў такім стане, у якім яна існуе, калі яна аддалілася ад народу, няма ніякай палітычнай пэрспэктывы — ніякай палітычнай пэрспэктывы. І толькі тады, калі прадстаўнікі яе выканаюць чатыры патрабаваньні, толькі тады ёсьць нейкая магчымасьць для гістарычнага існаваньня гэтай партыі. Я назаву гэтыя чатыры патрабаваньні.

Першае — гэта асэнсаваньне гістарычнага шляху і граху.

Другое — гэта пакаяньне ў грахах.

Трэцяе — гэта суд, суд над канкрэтнымі злачынцамі, якія зьнішчалі народ, якія тапталі нашых людзей, якія стварылі Курапаты (*воплескі*), якія стварылі Чарнобыль (*воплескі*).

І чацьвёртае патрабаваньне — гэта адмова ад злачыннай ідэялёгіі, ад антычалавечай ідэялёгіі.

Калі гэта будзе выканана, толькі тады ёсьць нейкія пэрспэктывы.

На сёньняшні дзень гэтая партыя — на першай стадыі. Яна толькі асэнсоўвае. Дык трэба ёй памагчы хутчэй гэта асэнсаваць і прайсьці гэтыя чатыры этапы таму што ў яе руках уся ўлада, а ўлада гэтая павінна належаць народу.

Я чаху сказаць, што перад намі раскрываюцца вялікія пэрспэктывы. Мы павінны адчуваць сваю сілу. Яшчэ трэба тут дадаць. Ніхто не пагаворваў зь кіраўнікоў, што будзе адмяняцца шостры артыкул (*артыкул савецкай Канстытуцыі пра «вядучую ролю» КПСС у савецкім грамадзтве — рэд. Б-са*). А зараз вырашылі. За колькі? За тры мінуты! Таму што народ паказаў, на што ён здольны. Таму я заклікаю вас усіх: будзем палітычна актыўнымі, будзем сьвядомымі, будзем узвышаць свой голас.

Цяпер нам прапануюць з Масквы «круглы стол». Не! У нас у Беларусі другія варункі. Мы ня можам сесьці за «круглы стол» з банкротамі, мы павінны іх прызваць ісьці ў адстаўку, і я прапаную гэтае патрабаваньне, якое гучэла тут ня раз, уключыць у рэзалюцыю, у зварот нашага мітынгу. Жыве Беларусь! (*галасы: «Жыве-е-е!*)

## РАСКАЗВАЕ ЎДЗЕЛЬНІК

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

месцы парушыць грамадзкі парадак і ясна сфармулюе свае мэты. Я ў гэтым пляне лічу гэтую падзею гістарычнай — гістарычнай, паўтараю, таму што такога адзінства, такога спакою і такога пачуцьця ўласнага гонару і ўласнай чалавечай годнасьці я яшчэ ніколі ня бачыў. І пасьля мітынгу ўсё было спакойна, ня гледзячы на тое, што распаўсюджваліся розныя чуткі, што тут ня ведама што будзе. І чуткі гэтыя былі інсьпіраваныя, я ўпэўнены, нашымі ўладамі, партыйнымі і савецкімі, але нічога не адбылося, і народ прадэманстраваў, што ён здольны змагацца за сваю будучыню дастойнымі мэтадамі.

**В. К.**: Спадар Шушкевіч, каму цяпер належыць улада ў горадзе? Ці ў стане партыйная адміністрацыя кантраляваць сытуацыю, ці ў стане дыктаваць народу свае ўмовы?

**С. Ш.**: Я думаю, што яна будзе пакуль што дыктаваць свае ўмовы і рашучых зьмен у першыя дні пасьля мітынгу ня будзе. Але я ўпэўнены, што і партыйныя арганізацыі... Дарэчы, я ўпэўнены, што сярод камуністаў ёсьць многа сумленных людзей, многа сумленных людзей... І я ўпэўнены, што і савецкія ўлады, і партыйныя зробяць адпаведныя вывады, і што гэты мітынг у той-жа дзень не паверне не перадасьць уладу ў іншыя рукі, але яна нармальным парлямэнцкім спосабам будзе пераходзіць у дастойныя рукі. Я ў гэтым упэўнены.

## *ТЭЛЕГРАМА БАЗА ЛІТОЎСКАМУ ПРЭЗЫДЭНТУ В. ЛЯНДСБЭРГІСУ*

Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелайць выслаў 15 сакавіка новаабранаму прэзыдэнту Літвы, якая абвесьціла сваю незалежнасьць, гэткую прывітальную тэлеграму:

Dear President Landsbergis,

The Byelorussian-American Association congratulates you and the entire Lithuanian nation on the courageous stand you took on the way to the renewal of Lithuania's freedom and independence. We wish you every success in your strivings for a peaceful and prosperous future.

There are millions of Byelorussians in Byelorussia who are in solidarity with your efforts but are prevented by the oppressive government from expressing their supportive encouragement of the Lithuanian people.

Your bold move to regain independence and democracy is an inspiration to all the peoples in the Soviet empire who are struggling for their freedom.

## МЭМАРАНДУМ ПРЭЗЫДЭНТУ ЗША

У леташнім 6-м нумары англамоўнага часапісу «Карэспандэнцыя Антыбальшавіцкага Блёку Народаў» зьмешчаны тэкст мэмарандуму да прэзыдэнта ЗША Дж. Буша. У мэмарандуме сказана, што «Вашынгтон мусіць узяць пад увагу вызвольнае змаганьне Украіны, Прыбалтыцкіх краёў, Беларусі, Грузіі, Арменіі, Азэрбайджану, Туркестану ды іншых народаў, паняволеных савецка-расейскім імпэрыялізмам і камунізмам».

Разам з прадстаўнікамі іншых арганізацыяў мэмарандум падпісаў кіраўнік Беларускага Вызвольнага Фронту Дзімітры Касмовіч.

## НА БЕЛАРУСІ — 40% САВЕЦКІХ ЯДЗЕРНЫХ РАКЕТАЎ

Газэта «Чырвоная зьмена» (27.II.90) зьмясьціла допіс кандыдата ў народныя дэпутаты БССР В. Гарбачова, які піша спасылаючыся на штатыднёвік «Аргументы и факты» (№ 6 за 1990 год): «Васемнаццаць 'ракетных апэрацыйных базаў' Савецкага Саюзу (з сарака чатырох!) разьмешчаныя на тэрыторыі Беларусі! Як так здарылася, што ў нашай рэспубліцы, якая ў агульнасаюзным маштабе займае менш аднаго працэнта плошчы, сканцэнтравана сорак працэнтаў стратэгічных базаў краіны. Хто плянаваў такое 'шчодрае' ядзернае разьмеркаваньне? Чым гэта выклікана? Хто даў згоду на разьмяшчэньне такой колькасьці ядзернай зброі на Беларусі? (...)

«Вярхоўны Савет БССР павінен неадкладна паставіць перад вышэйшым заканадаўчым органам краіны, Міністэрствам абароны СССР пытаньне аб дэмілітарызацыі рэспублікі».

## *МІЖНАРОДНАЯ ШКОЛА БЕЛАРУСАВЕДЫ*

Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт у Менску пляную адчыніць у бліжэйшым часе Міжнародную летнюю школу беларускае мовы, літаратуры й культуры. Для абмеркаваньня праграмы запланаванае школы ў Менск запрошаныя прадстаўнікі ньюёркскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Вітаўт Кіпель і праф. Томас Бэрд.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# ПРЭЗЫДЭНТ ВАЦЛАЎ ГАВЭЛ У ТАРОНЬЦЕ

Чэхаславацкая Асацыяцыя Канады запрасіла мяне, старшыню Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, на ўрачыстасьць сустрэчы з Прэзыдэнтам Чэхаславацкай Рэспублікі Вацлавам Гавэлам. Запросіны былі прынятыя.

Да Чэхаславаччыны, а асабліва да Прагі, чую, як хіба й шмат хто зь Беларусаў, свайго раду, калі так можна сказаць, афінітэт. Наш др. Францішак Скарына запачаткаваў у Празе Чэскай у 1517 г. беларускі друк, у Градчанах заснаваў ён адзін з большых у Эўропе батанічны сад. У Чэхаславаччыне Скарына скончыў і сваё творчае жыцьцё.

У Празе жылі й памерлі на выгнаньні два Старшыні рады БНР: Пётра Крэчэўскі й Васіль Захарка. У Чэхаславаччыне закончылі вышэйшую навуку й наступныя два Старшыні Рады БНР: інж. Мікола Абрамчык — палітэхніку ў Братыславе, і др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч — Карлаў унівэрсытэт у Празе. У Чэхаславаччыне ў 20-х гадох былі беларускія студэнцкія арганізацыі і было значнае беларускае жыцьцё. У Празе жылі слаўны сьпявак Забэйда-Суміцкі і паэтка Ларыса Геніюш. У Празе жыў, працаваў і памёр скарынавед праф. А. В. Флароўскі.

19 лютага агромная з двума балконамі заля Таронтаўскага Унівэрсытэту (дзе 35 год таму рэктар гэтага ўнівэрсытэту сказаў мне: «Адмітэ тэ ад градам») была перапоўненая, нават стаячых месцаў ня было, некалькімі тысячамі, за выняткам пару дзесяткаў гасьцей, Чэхаў і Славакаў.

Славакі відавочна падкрэсьлівалі сваю самабытнасьць нагруднымі знакамі з славацкай эмблемай і сваімі з шасьціканцовым крыжам сьцягамі.

Прэзыдэнт Гавэл, спазьніўшыся на паўтары гадзіны, прыйшоў у асысьце чэхаславацкай дэлегацыі, некалькіх рэктараў, прадстаўнікоў канадзкіх уладаў.

Урачыстасьць пачалася чэскім, славацкім і канадыйскім нацыянальнымі гімнамі. Першым прывітаў прэзыдэнта Чэхаславацкай Рэспублікі старшыня Чэхаславацкай Асацыяцыі Канады Мілош Шухма, пасьля генэральны «таёмнік» (сакратар) Сусьветнага Кангрэсу Славакаў а. Душан Тотз і міністар фэдэральнага ўраду Канады Отта Елінэк. Уся праграма вялася на чэскай або славацкай мове. Ніхто не зьвяртаў увагу на іншамоўных гасьцей. Толькі Канадыец рэктар Ёркскага ўнівэрсытэту, які ўручыў Прэзыдэнту Гавэлу ганаровую навуковую ступень, гаварыў паангельску.

Пасьля шматлікіх кароткіх прамоваў і ўручэньня падарункаў прамаўляў Прэзыдэнт Гавэл. Нявысокага росту, бляндын, у сьціплым шэрым касьцюме, не сьпяшаючыся выняў з бакавое кішэні зложаную паперу, разгарнуў яе і пачаў, нізкім, моцным і прыемным голасам, чытаць, час ад часу падымаючы вочы на аўдыторыю. Слухаеш уважна, хочаш зразумець, ды чуеш толькі характэрны, хутчэй прыемны, тэмбр, бо нельга сказаць напеў, чэскай мовы. Здаецца, што Прэзыдэнт, гаворачы ў такт, сячэ дровы. Пра што ён гаварыў? Пра будаваньне вольнай, незалежнай Чэхаславаччыны, у якой Чэхі, Славакі ды іншыя народы будуць жыць і працаваць у гармоніі й згодзе.

А я думала пра нашыя беларускія справы, пра Беларускі Народны Фронт, пра Мартыралёг Беларусі, пра іхнюю апазыцыю, пра чарнобыльскую трагедыю... пра тое, як-бы мы сустракалі Зянона Пазьняка, калі-б ён прыехаў у Канаду...

## НОВЫ СТАТУС ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ НА БЕЛАРУСІ

Архірэйскі Сабор Расейскай Праваслаўнай Царквы, што адбыўся 30-31 студзеня сёлета, пастанавіў, што Украінскі і Беларускі Экзархаты Маскоўскага Патрыярхату могуць афіцыйна звацца Украінская Праваслаўная Царква і Беларуская Праваслаўная Царква. «Московский церковный вестник» (№ 4, люты 1990) тлумачыць: «Вышэйшая заканадаўная, выканаўчая і судовая ўлада ў гэтых Цэрквах цяпер належыць Сынодам, якія складаюцца з выбіраных архірэяў. Пастановы гэтых мясцовых Сынодаў уваходзяць у моц пасьля іх падпісаньня, але канчальна зацьвярджаюцца Сьвяшчэнным Сынодам Расейскай Праваслаўнай Царквы. Непарыўная сувязь з Маскоўскім Патрыярхатам забясьпечвае Украінскай і Беларускай праваслаўным Цэрквам кананічную праваздольнасьць».

На Архірэйскім Саборы Мітрапаліт Менскі й Беларускі Філарэт сказаў, што праваслаўныя Беларусі «адчуваюць вострую нястачу кнігаў на беларускай мове». Філарэт назваў пастанову Сабору «даць нашай Царкоўнай акрузе большую самастойнасьць», «ня толькі своечасовай, але й мудрай».

### ПЕРШЫ ВЫПУСК РЭГЕНТАЎ

Пасьветчаньні аб заканчэньні Духоўнага вучылішча пры Менскай Епархіяльнай управе атрымалі ў лютым сёлета 46 асобаў з розных частак Беларусі. Зноў адкрытае вучылішча рыхтуе для прыходаў рэспублікі рэгентаў-псаломшчыкаў. («ЧЗ», 27.II.90)

### АЙЦЕЦ А. НАДСОН У МЕНСКУ

На пачатку сакавіка а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў-каталікоў і старшыня Беларускага Камітэту Дапамогі Ахвярам Радыяцыі, наведаў Менск, куды ён завёз мэдычныя прылады, мэдыкамэнты для «чарнобыльцаў» і правёў гутаркі з кампэтэнтнымі асобамі аб далейшай дапамозе ахвярам радыяцыі.

### *ВЕРШЫ ЭМІГРАНТАЎ У «БЯРОЗЦЫ»*

У лютаўскім нумары менскага часапісу для школьнае моладзі «Бярозка» зьмешчаныя вершы М. Сяднёва, Н. Арсеньневай, У. Дудзіцкага, С. Ясеня, Р. Крушыны, М. Кавыля, А. Салаўя, У. Клішэвіча з кароткай інфармацыяй пра кожнага аўтара.

### БССР ЗАПРАШАЕ АМЭРЫКАНСКІХ СПЭЦЫЯЛІСТАЎ

У намаганьні мадэрнізаваць сваю мясную прамысловасьць, Беларуская ССР запрасіла групу амэрыканскіх прадстаўнікоў мясаапрацоўкі даць курс лекцыяў у сэрыі сэмінараў, што будуць праведзеныя гэтае вясны, падала газэта «Вашынгтон Пост» (7.II). «Саветы вельмі зацікаўленыя навучыцца тэхнікі апакоўваньня, перапрацоўваньня ды тавараабыту», сказаў Уільям Гэйнс, прадстаўнік Інстытуту Харчовай Прамысловасьці ў Мічыганскім штатавым унівэрсытэце.

**Паважаныя Чытачы!** Прысылайце нам, калі ласка, газэтныя і часапісныя выразкі з матар'яламі пра Беларусь. — **Рэдакцыя**

**В. Сельвясюк**

# БЕЛАРУСКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ Ў ПОЛЬШЧЫ

У Польшчы ў травені сёлета прадбачацца выбары ў мясцовыя й тэрытарыяльныя органы ўлады. Да выбараў рыхтуюцца і Беларусы Беласточчыны.

10-га лютага адбыўся ў Беластоку ўстаноўчы сход першай у Польшчы палітычнай партыі нацыянальнае мяншыны, беларускае. Партыя назвала сябе Беларускім Дэмакратычным Аб'яднаньнем (БДА). У Галоўную Раду БДА ўвайшлі: А. Міpановіч, Ю. Туронак, В. Швед, С. Яновіч, А. Латышонак, М. Аляксяюк, І. Парфенюк, П. Скепка. За старшыню Галоўнай Рады абраны 54-гадовы пісьменьнік і журналіст Сакрат Яновіч.

«Беларуская палітыка ў нас, — піша Яновіч, — ня была магчымай у яўных маштабах на працягу амаль усіх сарака пяці гадоў ад заканчэньня сусьветнай вайны. Зьявілася ўжо трэцяе пакаленьне этнічных Беларусаў, пазбаўленых у сваёй масе нацыянальнай ідэялёгіі і цалкам падрыхтаваных паддацца асыміляцыі. Гэта апошні шанц дзеля беларускага выратаваньня, які прападзе назаўсёды разам з канцом унікальнага нам веку».



*Устаноўчы сход Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Прамаўляе прадстаўнік Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў Мікола Ваўранюк.*

Сярод удзельнікаў устаноўчага сходу пашыраўся бюлетэнь «Нашы Навіны». У гэтым бюлетэні С. Яновіч аналізуе палажэньне беларускае мяншыні ў Польшчы і абгрунтоўвае патрэбу палітычнае акцыі, як спосабу супрацьдзеяньня асыміляцыйным працэсам сярод беластоцкіх Беларусаў. «Будучыня беларускай нацыянальнай меншасьці ў Беластоцкім Краі, — піша Яновіч, — будзе такой, якою акажацца яе палітычная актыўнасьць. Паваенны час даcтаткова ясна паказаў, што абмежаваньне гэтай ажыўленасьці да культурніцтва толькі запавальняе наш нацыянальны заняпад і зьнікненьне зь гістарычнай арэны».

Каб не прапусьціць гэтага «апошняга шанцу», і было створанае Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне. Устаноўчы сход прыняў статут, у якім запісана, што Аб'яднаньне «дзейнічае ў адпаведнасьці з канстытуцыйным ладам Польскай Рэчыпаспалітай», «імкнецца да прававой дзяржавы і ўтварэньня дэмакратычнага грамадзтва на грунце самакіраваньня ды грамадзянскага пачуцьця», «найвышэйшым абавязкам лічыць мацаваньне тоеснасьці Беларускага Народу ў Польскай Рэчыпаспалітай, а таксама абарону яго палітычнага, культурнага, рэлігійнага і

*(Працяг на 4-й б.)*

### *БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯХ*

Дзякуючы дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту і ў выніку сёлетніх выбараў у Вярхоўныя Саветы РСФСР, Украіны і Беларусі (4 сакавіка), Беларусь выйшла шырокім плянам у паведамленьні тэлеграфных агенцтваў і на старонкі міжнароднага друку.

Папулярны амэрыканскі тыднёвік «Тайм» у нумары за 12 сакавіка у аглядзе палажэньня ў Савецкім Саюзе піша пра Беларусь:

«Камуністычная партыя гэтай славянскай рэспублікі (10,2 міліёна жыхароў, 79% Беларусы, 12% Расейцы, 4% Палякі, 2% Украінцы) знаходзіцца пад суровай крытыкай з боку Народнага Фронту 'Адраджэньне', які мае 100.000 сяброў. У сваім маніфэсьце ў сьнежні летась гэтая група выставіла абвінавачаньне: 'Мы маем статус паўкалёніі, якая забясьпечвае цэнтар'. Фронт абвінавачвае Маскву за прыхоўваньне вынікаў чарнобыльскае ядзернае аварыі ды за павольнае ачышчэньне тэрыторыі й шырокую экалягічную шкоду. 'Адраджэньне' таксама дамагаецца права прыватнай уласнасьці і скасаваньня камуністычнага манаполю на палітычную ўладу. У леташніх выбарах кандыдаты Фронту памаглі перамагчы колькі партыйных босаў».

### ФІЛЬМ «ДАНЧЫК»

Як падала газэта «Літаратура і Мастацтва» (23.II.90), у Менску выйшаў фільм «Данчык» вядомага кінадакумэнталіста Аляксандра Канеўскага. У фільме — кадры пэйзажоў беларускае прыроды, гучаць Данчыкавы песьні. «Данчык, — піша газэта, — сьпявае аб тым, чаго ніколі ня ведаў і ня бачыў раней. Усьміхаецца сарамлівай усьмешкай і радуецца разам з намі: Беларусы пачынаюць адчуваць сябе нацыяй».

Зь якой мэтай фільм зроблены? На гэта дапісчык «ЛіМу», карэспандэнт БЕЛТА Л. Перасыпкіна, адказвае: «А. Канеўскі сваім 'Данчыкам' не спрабуе папракнуць нас, маўляў, нашу культуру вяртае нам амэрыканскі хлопец. Ён радуецца ўзьнікшаму праз песьню новаму мосту дружбы і прапануе кожнаму ў глядзельнай залі перастаць быць госьцем на роднай зямлі».

Ляйтматывам у фільме сталіся словы папулярнай песьні «Трэба дома бываць часьцей, трэба дома бываць ня госьцем»...

Касэткі або кружэлкі з Данчыкавымі песьнямі можна замаўляць праз газэту «Беларус».

Алег Латышонак

## БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў ВОЛЬШТЫНЕ

Яшчэ й цяпер сьмяюцца хлопцы, успамінаючы пачаткі беларускага студэнцкага руху ў Вольштыне. Валодзя Пац знайшоў у прыбіральні палову бачыны зь «Нівы», на якой было надрукавана паведамленьне пра зьезд беларускіх студэнтаў у Бельску Падляшскім. Адкуль узялася тая «Ніва», па сёньняшні дзень няма ведама, паколькі ніхто з вольштынцаў тады ня чытаў яе (зрэшты, ніводзін з хлопцаў не вывучаў беларускай мовы ў школе). Як праваслаўныя, яны гуртаваліся ў брацтве пры вольштынскім прыходзе. На жаль, у руках Валодзі апынулася толькі палова паведамленьня. Усё-такі Бог зьмілаваўся, і другая палова знайшлася ў Ромка Семенюка, які якраз абгартаў ёю сэндвічы. Атрымаўшы поўную інфармацыю, Валодзя мог накіравацца ў Бельск.

Памятаю гэтага маладзёна, які зьявіўся з галавою перапоўненаю думкамі, ды ягонае зьдзіўленьне, што іншым тыя думкі прыйшлі ў галаў раней.

Валодзі было даручана заснаваць вольштынскі гурток Рады Культуры пры Згуртаваньні Польскіх Студэнтаў (ЗПС). Паводля статуту, трэба было сабраць сем чалавекаў. Дзеля ўпэўненасьці адзін з заснавальнікаў выклікаў з хаты сваю сяброўку (быццам на шпацыр) і прывёў на сход. Такім чынам сабралася восем асоб. Старшынёю выбралі Марыю Катлінскую. Быў напісаны статут і прадстаўлены для рэгістрацыі. Рэгістравалі цэлы год. Прынялі толькі пятую вэрсію статуту. Пры нагодзе, Раман Семянюк, упорыста перапісваючы чарговыя вэрсіі, навучыўся пісаць на машынцы.

10 сакавіка 1988 г. Рада Культуры студэнтаў беларускай нацыянальнай меншасьці пры ЗПС пачала афіцыяльна дзейнічаць. Яшчэ ў сакавіку наладзілі сустрэчу з Сакратам Яновічам, адзіным Беларусам, чыё прозьвішча было вядомае вольштынскім студэнтам. На сустрэчы прысутнічалі беларускія студэнты з Варшавы і Беластоку ды мясцовыя Украінцы й Літоўцы. Пры нагодзе, Сакрат падпісваў сваю кніжку «Беларусь, Беларусь».

Наступнай была сустрэча зь беларускім гісторыкам з Вроцлава (народжаным у Менску) Міколам Івановам, які гаварыў пра сытуацыю ў падсавецкай Беларусі.

Чарговым мерапрыемствам быў паказ фільму Тамары Саланевіч «Крэсавая баляда» пра жыцьцё Беларусаў у даваеннай Польшчы. Для паказу нанялі спэцыяльную кіназалю.

11-13 лістапада 1988 г. ў Залесьсі, што пад Вольштынам, наладзілі нараду актыву беларускіх студэнтаў у Польшчы. Сабралася трыццаць асобаў. Запрошаныя былі прадстаўнікі ўсіх асяродкаў. На жаль, камплетна падвёў галоўны цэнтар. Зь вялікага гораду Беластоку прыехаў толькі славуты Багдан Сіманенка, які зрэшты заявіў, што ён тут прыватна. З дакладамі выступілі Ю. Туронак (пра нямецкую акупацыйную палітыку на Беларусі), А. Латышонак (пра пошукі беларускім рухам нацыянальнага веравызнаньня) і Сакрат Яновіч. На нарадзе пастанавілі выступіць за рэгістрацыю Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў. Закончылі дыскатэкай і аглядам відэа (некаторыя глядзелі да ўпаду).

На пачатку 1989 году слаўна адсьвяткавалі Шчодры вечар і Жаночы дзень (жанчыны ў Вольштыне апошнім часам вельмі падабрэлі).



*Беларускія студэнты-ўдзельнікі канфэрэнцыі ў Мельне.*

Потым яшчэ раз сустрэліся з Сакратам Яновічам, які падзяліўся ўражаньнямі ад свайго амэрыканскага падарожжа.

12-14 траўня вольштынцы зарганізавалі ў Мельне агульна-польскую канфэрэнцыю на тэму «Стан і пэрспэктывы разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху». Са старэйшых сябраў прысутнічалі Юрка Туронак, Яўген Мірановіч і, вядома-ж, Сакрат Яновіч. Прыехалі студэнты зь Беластоку, Варшавы і Гданску. Сабралася 35 асобаў. Апрача дакладаў і дыскусіяў добра адпачывалі, плаваючы на лодках і скачучы па дыскатэках.

У чэрвені вольштынскія Беларусы ўзялі ўдзел у дэманстрацыі, арганізаванай Незалежным Згуртаваньнем Студэнтаў супроць крывавай расправы кітайскіх уладаў над студэнтамі ў Пэкіне.

Пад канец месяца дзейсна дапамагалі ладзіць Купальле ў Супрасьлі, а ў

(Працяг на 7-й б.)

**«СУСТРЭЧЫ» 1989, № 1(12)**
**Часопіс беларускіх студэнтаў у Польшчы**

У нумары: Ал. Максімюк — Адступаць няма куды (аналіз удзелу беластоцкіх Беларусаў у выбарах); Вырванае з кантэксту (выказваньні ўдзельнікаў першага зьезду беларускіх студэнтаў у сакавіку 1987 г.); Мост на Нарве (інтэрв'ю із старшынём Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі Юркам Азаркам); Юры Туронак — Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне (заканчэньне); Маніхвэст «Тутэйшых» (Таварыства маладых літаратараў пры Саюзе пісьменьнікаў БССР); хроніка студэнцкага жыцьця. Усіх 27 бб.

## БДА Ў ПОЛЬШЧЫ

(Заканчэньне з 3-й б.)

нацыянальнага сувэрэнітэту, «намагаецца, каб Беластоцкі Край разьвіваўся цывілізацыйна і культурна непадзельна, раўнамерна і рацыянальна». У статуце БДА пералічаюцца далей іншыя дэмакратычныя вартасьці, пашыраць і замацоўваць якія будзе мэтай новай палітычнай партыі. У статуце выкладзеная таксама структура кіраўнічых органаў БДА.

Удзельнікі сходу былі азнаёмленыя з рапартам пра гаспадарчы і культурны стан усходняе часткі Беластоцкага ваяводзтва (заселенага Беларусамі). Рапарт, падрыхтаваны на аснове афіцыйнае статыстыкі Яўгенам Мірановічам, паказвае на гаспадарчую і цывілізацыйную адсталасьць усходняй часткі Беласточчыны ня толькі ў параўнаньні да рэшты краіны, але нават у параўнаньні да заходняй часткі ваяводзтва (заселенай Палякамі), дзе ў тры разы больш лекараў, у чатыры разы больш тэлефонаў і ў два рады лепшыя дарогі. Затое беларуская частка ўсе гэтыя гады плаціла дзяржаве большыя падаткі. Як сьцьвярджаецца ў праграме БДА: «сродкі, якія выдзяляла дзяржава на разьвіцьцё беларускай культуры, зводзіліся амаль да нуля ў параўнаньні з той часткай падаткаў ад Беларусаў, што адводзілася ў дзяржаўны бюджэт. Такім чынам, Беларусы самі даплачвалі на сваю дэнацыяналізацыю».

Два тыдні пазьней, 23-га лютага, у Беластоку быў створаны Беларускі Выбарчы Камітэт (БВК), каб рыхтавацца да выбараў. Зь ягонага складу выдзелены выбарчы штаб, сябры якога займаюцца цяпер арганізаваньнем выбарчых камітэтаў па мясцовасьцях Беластоцкага Краю. За старшыню выбарчага камітэту абраны Віктар Стахвюк. У БВК увайшлі прадстаўнікі трох дзейных на Беласточчыне беларускіх арганізацыяў: Беларускага Грамадзка-Культурнага Т-ва, Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў і новастворанага Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Выбарчы камітэт зьвярнуўся да Беларусаў Беласточчыны з адозвай, у якой, між іншага, сказана:

«Першы раз за сваю гісторыю можам мець уладу ў сваіх руках. Трэба выйграць выбары ў гмінах і мястэчках, у якіх пераважаем. Тым больш, што сёньня ідзем мы разам з Праваслаўнай Царквою. Таксама павінны здабыць істотную лічбу мандатаў і ў тых гмінах ды гарадох, у якіх мы ў немалой меншасьці. Каб так сталася, трэба арганізаваць Беларускія выбарчыя камітэты. Яны выпрацуюць мясцовыя праграмы патрэб насельніцтва і выставяць кандыдатаў у Рады.

«Мы, Беларусы, павінны галасаваць усе і за сваіх. Іначай ня можам, калі ня хочам, каб намі кіравалі іншыя. Гэта таму байкот выбараў ня мае сэнсу. Бо рады ўсёроўна будуць створаныя. Але ці нашыя?!

«Новыя рады ня будуць пустым звонам. Ім і толькі ім будуць падлягаць практычна ўсе справы на тэрыторыі гміны, ці гораду. Яны будуць вызначаць пра лёс гаспадарак і пра падаткі. Ад іх будуць залежаць рамесныя варштаты і фабрыкі, фірмы. Іх сэсіі акрэсьляць эканамічныя і грамадзкія накірункі разьвіцьця ваколіцы. Будуць яны мець нават сваю паліцыю ды скарбовую службу, сэкрэтарскую. Грошы і тавары з тэрыторыі гміны нікуды ня пойдуць бяз згоды тутэйшай Рады. Ніхто і нічога не накажа супраць яе волі. Часы каманды скончацца. Вялікая незалежнасьць ад ваяводзкіх і цэнтральных органаў абавязвае мець у Радах людзей разумных і сумленных. Калі так ня збудзецца, у гмінах і гарадзкіх управах пачнуць панаваць тыя-ж камбінатары і спрытнюкі. Ня можам дапусьціць да гэтага; будзе нам кепска. І нікуды ня будзем магчы пайсьці са скаргамі. Будуць казаць нам: каго выбралі, таго і маеце. Ня можам свой лёс здаваць у няпрыязныя рукі».

У выбарчай праграме пастаўленыя тры галоўныя мэты: супрацьстаўленьне гаспадарчай адсталасьці Беласточчыны (ратаваньне беларускай вёскі), нацыянальнае адраджэньне і наладжаньне добрасуседзкіх дачыненьняў з Палякамі. Гэтая апошняя праблема мае цяпер асабліва эмацыянальную ахварбоўку. Трэба ведаць, што разам, а мо лепш — побач з разьвіцьцём у Польшчы дэмакратыі і свабоды выявіліся таксама старыя, але моцныя тэндэнцыі польскага шавінізму і варожасьці да Беларусаў.

У якасьці нацыянальнай сымболікі БДА будзе выкарыстоўваць гэрб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сьцяг.

Прысутная на сходзе Данута Бічэль-Загнетава, паэтэса з Гародні і сябра БНФ, у сваім выступленьні сказала: «Ваша партыя будзе нам у Беларусі магутным маральным стымулам і духовай падтрымкай».

## СКАРЫНАЎСКІ МІЖНАРОДНЫ МАРШРУТ

Група сьведамае моладзі ў Менску (пісьменьнікі, перакладчыкі, мастакі, журналісты) пляную адзначыць сёлетні 500-гадовы юбілей Францішка Скарыны падарожжам на раварох па ўсіх тых мясьцінах, дзе калісьці бываў наш вялікі Асьветнік і Гуманіст. Маршрут, паводля пляну, пачнецца ў Полацку, пройдзе праз Беласток, Варшаву, Кракаў, Чэхаславаччыну, Аўстрыю і скончыцца ў Падуі (агульная даўжыня шляху перавысіць 2 тысячы кілямэтраў).

Гарантыі няма, што падарожжа адбудзецца, але робіцца намаганьні. У падарожжа запрашаюцца і замежныя Беларусы. Па далейшую інфармацыю трэба зварачацца на адрас: 220094 Менск, вул. Пляханава 34-35. каардынатар экспэдыцыі «Скарына-90» Мікляшэвіч Ігар Аляксандравіч. Тэл.: 47-32-20.

## «ЛЯВОНІХА» Ў ГАЙНАЎЦЫ

У гайнаўскім Беларускім ліцэі жыве традыцыя арганізаваць гэтак званыя «стаднёўкі», вучнёўскія балі для апошніх клясаў, якраз сто дзён перад іх экзаменам на сталасьць. Звычайна, гэткі баль пачынаўся прамовай дырэктара школы, пасьля чаго вучні важна й афіцыйна танцавалі «палянэза».

Быў час, калі ня было нічога беларускага на гэтых «стаднёўках». Толькі дырэктар Аляксандр Іванюк пачаў ужываць беларускую мову ў сваіх прамовах, а за ягоным прыкладам пайшлі й вучні. Але «стаднёўка» ў гэтым годзе адзначылася яшчэ нечым выключным. Упяршыню пасьля фармальнага «палянэзу» група вучняў пераапранулася ў народныя касьцюмы і дынамічна адтанцавала «Лявоніху». Бурныя воплескі прымусілі танцораў яшчэ раз вярнуцца ў залю.

«Лявоніха» ў гайнаўскім ліцэі можна сьмела лічыць непасрэдным вынікам візыту ньюёркскага «Васілька» ў Беласточчыну. Падчас сустрэчы ў ліцэі ў чэрвені летась «васількі» вучні й настаўнікі прабавалі танцаваць супольна. Было шмат сьмеху й жартаў, але, як выявілася, на гэтым ня скончылася.

Ідэя «Лівоніхі» на «стаднёўцы» выйшла ад саміх вучняў, а практыкаваліся яны пад кіраўніцтвам сп. Пётры Скепкі, вядомага і ў Амэрыцы кіраўніка ансамблю «Дубіны».

## АДЗНАЧЭНЬНЕ СКАРЫНАЎСКАГА ЮБІЛЕЮ

У сувязі зь 500-годзьдзем ад дня нараджэньня др. Францішка Скарыны, славутага беларускага першадрукара, гуманіста, вучонага й асьветніка пары Рэнэсансу ды перакладніка Бібліі ў родную мову, Беларусы на бацькаўшчыне й па-за еймі межамі адзначаюць гэты юбілей, унесены таксама на каляндар выдатных датаў ЮНЭСКО.



*Галоўная частка выстаўкі*

Скарынаўскі юбілей быў урачыста адзначаны ў беларускай каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы ў Чыкага ў прысутнасьці Кардынала Бэрнардына ў нядзелю 18 лютага. Пры галоўным уваходзе ў царкву Кардынала Бэрнардына прывітала ад парафіянаў сп-ня Гэлена Сысой, уручаючы яму букет кветак, а дзеці правіталі Яго Эмінэнцыю з хлебам і сольлю.

Кардынал Бэрнардын у асысьце двух сваіх капэлянаў заняў месца перад алтаром. Сьв. Літургію ў суслужэньні трох сьвятароў і дыякана служыў а. Язэп Сыру, адміністратар царквы Хрыста Збаўцы. Прывітаўшы спачатку кардынала ды нагадаўшы сутнасьць скарынаўскіх угодкаў, а. Сыру уручыў яму іконку Жыровіцкае Божае Маці.

Хор пад кіраўніцтвам сп. Эдвіна Уокера, узмоцнены новымі галасамі, поўна й магутна выконваў літургічныя напевы. У сваёй красамоўнай казані Кардынал Бэрнардын нагадаў заслугі др. Францішка Скарыны як перакладніка Бібліі ў беларускую мову, беларускага першадрукара, асьветніка й гуманіста, уся дзейнасьць якога пакінула незаціральныя сьляды ў беларускай культуры. Нагадаў ён таксама пра цярпеньні беларускага народу, спрычыненыя выбухам ядзернага рэактара ў Чарнобылі.

Пасьля Літургіі Кардынал Бэрнардын адчыніў скарынаўскую выстаўку ў парафіяльнай залі ды пры гэтай нагодзе ізноў гаварыў пра выдатныя заслугі Скарыны перад беларускай культурай. Зьведваючы выстаўку, Кардынал дакладна распытваў у сп-ні Веры Рамук, кіраўнічкі выстаўкі, пра дэталі дзейнасьці беларускага Юбіляра.

На выстаўцы былі паказаныя: выдавецкая праца Скарыны, даведачны матар'ял аб ім, копіі друкаў Бібліі, рэпрадукцыі партрэту Скарыны з Падуі, вялікі партрэт першадрукара, выкананы мастаком Пётрам Мірановічам зь Нью-Ёрку, рэдкія паштовыя маркі з выявай Скарыны, выданыя ўрадам БНР у 1918 годзе, канвэрт са скарынаўскай паштовай маркай, выпушчаны ў Савецкім Саюзе 17 сакавіка 1988 г., ды іншы скарынаўскі паштовы матар'ял, а таксама нядаўна выданая кніга «Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны» др. Вітаўта Тумаша зь Нью-Ёрку, факсымільнае выданьне Статуту Вялікага Княства Літоўскага зь Менску (у распрацоўваньні Статуту Скарына, праўдападобна, браў удзел) ды каталёг выстаўкі да 500-гадовага юбілею «Францыск Скарына і яго час», што склаў і праілюстраваў Анатоль Белы зь Менску.

Заля выстаўкі была ўпрыгожаная разьвешанымі самаробнымі дзяружкамі й ручнікамі, былі выстаўленыя прывабліва лялькі ў нацыянальных строях, пано зь беларускімі сцэнкамі, вышыўка ды іншыя дэкарацыі.

Пасьля агляду выстаўкі адбылася сустрэча прадстаўнікоў нашай парафіі з Кардыналам Бэрнардынам у царкоўнай бібліятэцы, дзе сп-ня В. Рамук прадставіла гасьцю сытуацыю Беларусаў-каталікоў на Бацькаўшчыне, зазначыўшы, што прайшло больш за 470 гадоў ад часу, калі Скарына выдаў друкам Біблію ў беларускай мове, але, на жаль, мова беларуская і цяпер ня мае належнага ёй месца ні ў сьвятынях, ні ў школах, ні ў дзяржаўных установах на Беларусі, хоць і гучаць дамаганьні зь вярхоў і нізоў народу. Сп-ня Рамук зьвярнулася да Кардынала Бэрнардына з просьбай, каб ён перадаў Сьв. Айцу ў Рыме пра патрэбу дасыланьня малітоўнікаў і Бібліі ў беларускай мове вернікам на Беларусі ды каб каталіком на Беларусі далі магчымасьць, у духу Другога Ватыканскага Сабору, маліцца ў сьвятынях і чуць Слова Божае ў Літургіі і казаньнях пабеларуску.

На гэта Кардынал сказаў, што ён добра разумее становішча Беларусаў-каталікоў у Беларусі, ведае, у якіх абставінах яны жывуць ды працуюць ды што ён, у меру магчымасьці, будзе старацца дапамагчы, але на гэта патрэбныя час, цярплівасьць і малітва.

Урачыстасьць закончылася банкетам у парафіяльнай залі, уся праграма якога была зьнятая на відэастужку сп. Н. Жызьнеўскім.

**др. Вітаўт Рамук**

### *ІМША ВАТЫКАНСКАГА РАДЫЁ ПАБЕЛАРУСКУ*

Беларуская сэкцыя Ватыканскага радыё перадала 24 сакавіка сёлета сьв. Імшу поўнасьцяй пабеларуску. Зроблена гэта было на просьбу слухачоў зь Беларусі. Імшу адслужыў у капліцы Дабравешчаньня ў цэнтры прадукцыі праграмаў Ватыканскага радыё а. др. Рабэрт Тамушанскі ў прысутнасьці групы Беларусаў з Рыму і запрошаных гасьцей.

У сваёй прынагоднай казані а. Тамушанскі гаварыў пра сьвята Дабравешчаньня й Акт 25 Сакавіка 1918 году.

**Масей Сяднёў**

# БАРЫС КІТ

**Да 80-годзьдзя жыцьця**



Гаворку пра Барыса Кіта, пэдагога, навукоўца, грамадзкага дзеяча, хацелася-б пачаць зь ведамага ў філязофіі гісторыі палажэньня, што чалавек у вышэйшай ступені ёсьць істота гістарычная. Чалавек знаходзіцца ў гістарычным і гістарычнае ў чалавеку. Менавіта такога погляду трымаецца расейскі філёзаф Мікола Бярдзяеў. У сваёй працы «Сэнс гісторыі» ён кажа, што чалавека нельга выдзеліць зь гісторыі, нельга ўзяць яго абстрактна. Паміж чалавекам і «гістарычным», сьцьвердзіць ён, існуе такая глыбокая ўзаемнасьць, такое таямнічае ў сваёй першаасновe зрастаньне, што разрыў іх немагчымы. Чалавек так ці інакш зьдзяйсьняецца «гістарычна» і гісторыя ў ім.

Як-жа тады зьдзейсьніўся «гістарычна», знайшоў сябе ў гісторыі наш паважаны юбіляр Барыс Кіт, што йдзе гэтай гісторыяй вось ужо 80 год? Тут нам можа дапамагчы тое, што ў філязофіі гісторыі называецца *гістарычнай памяцяй*, як спосаб, мэтад пазнаньня гісторыі. Вось-жа карыстаючыся мэтадам *гістарычнай памяці*, праз якую мы пазнаём сваё духовае мінулае, а разам і сучаснае, мы можам прасачыць, прыгадаць, успомніць «гістарычную» пуцявіну чалавека, што дзеяў і дзее ў гісторыі, пэўным чынам адклаўся ў ёй, заваяваў, так-бы сказаць, сабе месца ў ёй, ці паводля філязофіі Бярдзяева — тварыў легенду. Гісторыя, кажа Бярдзяеў, — гэта-ж і легенда. Бо ня дай-жа Божа ўпадобніцца Івану з расейскай прымаўкі, што ня помніць сваёй зродненасьці зь мінулымі пакаленьнямі.

Барыс Кіт нарадзіўся 24 сакавіка 1910 г. ў сталіцы імпэрскай Расеі Пецярбурзе. У гэтай-жа сталіцы прайшло ягонае маленства. У ёй-жа Барыс Кіт пазнаў і першыя пачаткі навукі. У гэтай хмурай сталіцы ён пераджыў дзьве рэвалюцыі. Але ня гэтыя абставіны вызначылі жыцьцёвы шлях Барыса Кіта — нейкім, скажам, расейскім чыноўнікам ён ня стаўся. Яму быў наканаваны іншы лёс. Яго паклікала Бацькаўшчына. Бацькаўшчына як запавет, як паданьне, як легенда, як памяць. Кітава Бацькаўшчына-Беларусь глыбока ўвайшла бацькаўскімі карэнямі ў падсьведамасьць Барыса-дзіцяці. Вытокі яе там, у вёсцы Агароднікі Карэліцкай воласьці Наваградзкага павету, на радзіме ягонага бацькі. Гэта яна, малая бацькаўшчына-Агароднікі, паклікала зь Пецярбургу сям'ю Кітоў. Гэта тое «таямнічае зрастаньне» з Бацькаўшчынай, зь гісторыяй, пра якое мы гаварылі вышэй. Гэта тая легенда, той міт Наваградка, колішняй нашай гістарычнай сталіцы, той ген, што й спараджае ў нас адчуваньне Бацькаўшчыны. Нездарма-ж Шэленг сьцьвярджаў, што міт, міталёгія — гэта першапачатная гісторыя чалавецтва.

Паглядзімо-ж на першапачатную гісторыю Барыса Кіта. У 1926-28 гадох ён — вучань Беларускай гімназіі ў Навагрудку. У 1928-1933 гадох Барыс Кіт — студэнт фізыка-матэматычнага факультэту на ўнівэрсытэце імя Сьцяпана Баторыя ў Вільні. Унівэрсытэт Сьцяпана Баторыя Кіт канчае з ступеняй магістра ў галіне матэматыкі. І ў тым-жа 1933 годзе Кіт — ужо выкладчык матэматыкі ў Беларускай гімназіі ў Вільні.

Але абыйсьціся адной матэматыкай малады настаўнік ня мог. Гістарычныя падзеі таго часу — мы маем на ўвазе актывізацыю беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі — захапілі, падхапілі і выкладчыка матэматыкі Барыса Кіта. Яго, як таксама і шматтысячную грамаду Беларусаў, паклікала гісторыя ўзяць у ёй удзел, зьдзейсьніцца «гістарычна». Дзейнасьць такіх арганізацыяў як Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя (БХД), Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), а перадусім Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада (БСРГ) не магла абмінуць, пакінуць збоку нацыянальна настроенага маладога настаўніка. У адпаведнасьці з сваімі пераконаньнямі Барыс Кіт узяў удзел у гістарычным працэсе таго часу. Ён таксама тварыў гісторыю, легенду. Падчас разгрому Грамады і Таварыства Беларускай Школы польскія ўлады арыштоўваюць маладога настаўніка-рэвалюцыянера, першы раз у Навагрудку, другі — у Вільні. Знамянальны шлях — ад Пецярбургу да Лукішак. На гэтым як-бы завяршаецца пачатная фаза рэвалюцыйна-асьветніцкай дзейнасьці Барыса Кіта. Пачынаецца новая фаза ў гістарычна новых умовах — ува ўмовах ужо аб'яднанай Беларусі.

У 1939 годзе, у выніку страты Польшчай сваёй самастойнасьці, Заходняя Беларусь аб'ядноўваецца зь Беларусяй усходняй, і Барыс Кіт не прапушчае гэтага гістарычнага шанцу — зноў бярэцца за сваю асьветніцкую і грамадзкую працу. У гэтым-жа 1939 годзе ён становіцца дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні. Па нейкім часе аднаўляе зачыненую было польскімі ўладамі Беларускую гімназію ў Навагрудку. Нарэшце, у 1940 годзе займае пасаду акруговага інспэктара на Баранавіцкую акругу. Арганізоўвае пачатковыя і сярэднія школы ў Баранавіцкім, Навагрудзкім, Слонімскім, Валожынскім і Ваўкавыскім паветах. Аднак з акупацыяй немцамі Беларусі ў 1941 годзе асьветніцкая дзейнасьць

*(Працяг на 6-й б.)*

### ВЕРШЫ М. СЯДНЁВА

Выдаваны ў Нью-Ёрку расейскі «Новый Журнал» (кн. 177, 1989, бб. 92-95) зьмясьціў у выдатным перакладзе В. Крэйды верш Масея Сяднёва «Сказ пра нашу кабылу» зь цікавым філязофскім назіраньнем.

У гадавіку 1990 энцыкляпэдыі «Брытаніка» (б. 268) адзначана, што вершы Масея Сяднёва ўпяршыню (у паваенным пэрыядзе) зьявіліся ў савецкім друку, але галоўна толькі тыя, што ўжо друкаваліся на Захадзе.

У другім сёлетнім нумары часапісу «Маладосьць» зьмешчаныя таксама вершы паэта і ягоны адказ пісьменьніку Барысу Сачанку.

# БАРЫС КІТ

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

прафэсара Барыса Кіта перапыняецца. Больш таго — каб ня быць пакараным гестапаўцамі, ён змушаны быў пэўны час туляцца, жыць на нелегальным становішчы.

Ды гісторыя кліча, ня зьдзейсьніць сябе «гістарычна» азначала-б неісnaваньне, і матэматык Кіт, нягледзячы на нішто, зноў бярэцца за сваё — арганізуе ці аднаўляе беларускія настаўніцкія сэмінарыі ў Паставах і ў Маладэчне. У гэтым-жа Маладэчне зь ініцыятывы Кіта паўстаў Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут. Аднак ува ўмовах гітлераўскай акупацыі гэтыя навучальныя ўстановы былі заўсёды пад пагрозай. Сам Кіт расказвае: «Бясупынныя канфлікты зь Немцамі, што кіраваліся нацысцкай філязофіяй — навука не для «унтэрмэншаў» — не давалі магчымасьці нармальнай працы гэтым навучальным установам». Нарэшце, Немцы зачыняюць і настаўніцкія сэмінарыі, і Гандлёвы інстытут. Самога-ж арганізатара гэтых установаў Барыса Кіта арыштоўвае гестапа. Ад расстрэлу Кіта выратоўваюць яго ныя былыя вучні гімназіі Адам Дасюкевіч і Кастусь Касяк, хоць самі яны пазьней гінуць ад нямецкай кулі.

Пойдзем далей па гістарычных, такбы мовіць, сьлядох прафэсара Барыса Кіта. 1945-48 гады. Магістар Барыс Кіт — на Захадзе, у Заходняй Нямеччыне. Выкладае матэматыку ў розных сярэдніх «дыпіўскіх» школах. Студыюе на ўнівэрсытэце ў Мюнхэне. Але гэта пераходны час у Барыса Кіта. Гэта — міжчасьсе. Ды гэтае міжчасьсе сталася сваеасаблівым трамплінам, рыўком у больш бліскучы пэрыяд дзейнасьці.

Барыс Кіт апыняецца ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Тут набірае размах навуковая дзейнасьць матэматыка Барыса Кіта. Затрымаўшыся на нейкі час у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы, дзе, дарэчы, ён усталёўве хіба ці не найбольшы ў ЗША сэтлмэнт Беларусаў, Кіт перабіраецца ў Лёс-Анджэлес, Каліфорнія, дзе ўладкоўваецца на працу ў славутую амэрыканскую фірму ракетных і касьмічных дасьледваньняў — Норт Амэрыкэн Авіэйшон (North American Aviation, Inc). Бярэ ўдзел у працах над дасьледваньнем і пабудовай першых амэрыканскіх міжкантынэнтальных ракетных сыстэмаў. У выдавецтве Макмілан выходзіць першы ў гісторыі падручнік Барыса Кіта па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве. Аўтар аналягічнага савецкага падручніка, што выйшаў у СССР пазьней, нямала скарыстаў з падручніка Барыса Кіта. У сувязі са Спутнікам, першымі посьпехамі Саветаў у космасе, ЗША у тэрміновым парадку ўзяліся за распрацоўку сваёй касьмічнай праграмы. Барыс Кіт быў паклікаíы у Вашынгтон у якасьці экспэрта ракетаў і дарадніка ў галіне разьвіцьця астранаўтыкі. У гэтай ролі Барыс Кіт бярэ чынны ўдзел у міжнародных зьездах астранаўтаў, чытае на іх рэфэраты з галіны астранаўтыкі. Адначасна працуе над сваёй другой кнігай «Гісторыя і сучасны стан савецкай астранаўтыкі» — кніга, што выходзіць пры фінансавай падтрымцы National Science Foundation і Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту. У розных міжнародных навуковых часапісах ён зьмяшчае свае артыкулы, у якіх распрацоўвае тэарытычныя пытаньні ў галіне астранаўтыкі. У якасьці экспэрта бярэ ўдзел у перамовах ЗША і СССР аб наладжаньні паміж гэтымі краінамі супрацоўніцтва ў галіне касьмічных дасьледваньняў. У сваёй працы Кіту даводзіцца мець дачыненьне з такімі дзеячамі ў галіне астранаўтыкі, як фон Браўн, фон Карман і інш.

У 1972 годзе Кіт пакідае сваю працу ў Вашынгтоне, пераяжджае ў Заходнюю Эўропу, займае становішча прафэсара матэматыкі ў эўрапейскім адзьдзеле Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту. На працягу 18 гадоў і па дзень сёньняшні Барыс Кіт выкладае матэматыку ў 40 амэрыканскіх вайсковых цэнтрах у Эўропе. Тысячы амэрыканскіх жаўнераў, афіцэраў і цывільных урадоўцаў былі вышкаленыя Барысам Кітом.

Прага да ведаў ніколі не пакідала прафэсара Барыса Кіта. У паважным ужо веку Барыс Кіт здабывае ў 1983 годзе пры Рэгенсбургскім унівэрсытэце дыплём доктара філязофіі. Ён абараніў дысэртацыю Antoni Zygmund, sein Leben und sein Beitrag zu der Entwicklung der Mathematik im 20 Jahrhundert. Веды Барыса Кіта прызнаныя і высока ацэненыя. Барыс Кіт — старэйшы сябра Амэрыканскага Астранаўтычнага Таварыства, ён-жа ганаровы сябра Брытанскага Міжплянэтарнага Таварыства, а таксама сябра Дырэктарыяту нямецкага Астранаўтычнага таварыства (Hermann-Obert-Geselschaft, сябра Камітэту гісторыі Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі (Парыж). Кіту нададзена званьне заслужанага прафэсара Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту. Таварыства імя Гэрмана Обэрта (ФРГ) узнагародзіла Барыса Кіта залатым мэдалём за заслугі ў галіне астранаўтыкі. Імя Барыса Кіта, як навукоўца, згадваецца ў такіх публікацыях, як Leaders of American Science, Who's Who in Space, Two Thousand Men of Achievement.

Беларускі савецкі пісьменьнік Барыс Сачанка ў сваім аглядзе дзейнасьці Беларусаў за мяжой (часапіс «Маладосьць», Менск 1988) назваў Барыса Кіта «буйным» навукоўцам.

Мы прасачылі, такім парадкам, «гістарычны» шлях нашага паважанага Юбіляра, пагля дзелі, як ён зьдзяйсьняўся «гістарычна», як ён адклаўся ў гісторыі. Празь яго, праз кожнага з нас, шляхам *гістарычнай памяці* мы пазнаём сваё духовае мінулае, сваю духовую культуру, сваю Бацькаўшчыну. «Кожны чалавек, — кажа Бярдзяеў, — гэта вялікі сьвет, мікракосмас, у якім адбіваецца і знаходзіцца рэальны сьвет». Адбіўся гэты сьвет і ў асобе нашага Юбіляра. Пажадаем-жа яму яшчэ доўгіх гадоў плённай працы, добрага здароўя, посьпехаў, шчасьця.

*З жыцьця ў Парыжы*

## НА ПАРАДКУ ДНЯ ЧАРНОБЫЛЬ

У нядзелю 14 лютага ў памешканьні Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі адбылася зборка Беларусаў з Парыжу й ваколіцаў з агульным, традыцыйным ужо, абедам, што заўсёды падрыхтоўваюць нашы жанчыны. Зборка была арганізаваная кіраўніком душпастырства а. Аляксандрам Надсонам у супрацоўніцтве з «Хаўрусам», а тэмай сустрэчы была жудасная чарнобыльская катастрофа і ейныя зьнішчальныя вынікі на Беларусі.

Незважаючы на вострыя спрэчкі, часамі супрацьлеглыя пагляды, калі дайшло да ахвяраў у фонд дапамогі пацярпелым, усе аказаліся зь вялікім сэрцам і шчодра зложылі на рукі зборшчыка а. Надсона 2.500 франкаў (каля 440 даляраў). Трэба зазначыць, што беларуская грамада ў Парыжы вельмі сьціплая. Зборшчык і ўправа «Хаўрусу» шчыра ўсім дзякуюць. Вялікая падзяка таксама сп. М. Занковічу, які жыве на ўсходзе Францыі ў Маранжы, за прысланыя 500 франкаў.

**М. Смага**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## 17-Я МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры адбылася ў нядзелю 11 сакавіка 17-я гадавая выстаўка. Сьцены вялікае сьветлае залі былі абвешаныя абразамі, малюнкамі, рысункамі, фатаграфіямі з рознымі сюжэтамі і ў рознай тэхніцы выкананьня. Пераважалі матывы беларускае прыроды й гісторыі. На расстаўленых-жа вялікіх круглых сталох, накрытых вузорнымі дзяружкамі, красаваліся вынікі працы ўмельцаў: падушкі, паясы, шкатулкі, лялькі, статуэткі ды шмат іншых рэчаў, якімі Беларусы ўпрыгожваюць сябе і свае хаты.



*Удзельнікі выстаўкі*

Саўтрывэрскія выстаўкі штагоду карыстаюцца папулярнасьцяй. Шмат наведнікаў, зблізку й здалёк, было й сёлета. Прывітала іх усіх, адчыняючы выстаўку, сп-ня Ірэна Дутко. Арганізатары падрыхтавалі наведнікам ня толькі духовую ежу, але й кулінарыйную. Пры чарцы кактэйлю і закусцы і мастацтва лепш успрыймаецца.

Акторка Вілачка Саўчук пачаставала публіку сваім паэтычным «экспанатам», які ня горш за гэты рэпартаж апісаў гэтую культурную й мілую падзею:

Вось канцоўка гэтага вясёлага вершу:

Але хто ўсё гэта робіць? —
Запытаюся я вас.
Адказ лёгка так прыходзіць,
Бо яны тут сяродк нас:
Іра, Люда, Надзя, Ліза —
Тыя самыя штогод,
Ўсё зьбіраюць, раскладаюць,
Каб пацешыць наш народ.

У выстаўцы ўзялі ўдзел мастакі: а. К. Бандарук, І. Батэрворт, І. Рагалевіч-Дутко, Н. Дутко, Н. Кудасава, Людміла К. М., Т. Місіюк, Аліса Махнюк, Алег Махнюк, Г. Русак, А. Сільвановіч, А. Скаўронскі, Ст. Тамара, І. Сурвіла, Я. Вініцкі; умельцы: Ю. Андрусышына, К. Блюм, Г. Брынкевіч, І. Дутко, Т. Гэтман, В. Камінкова, З. Кіпель, Н. Кудасава, Ліза Літаровіч, Люда Літаровіч, Л. Махнюк, М. Наумчык, В. Рагалевіч, Г. Русак, П. Траскевіч, М. Стагановіч, Х. Урыўская, Н. Згірская.

**Я. З.**

## АБ «БЕЛАРУСКІМ ТРЫСТАНЕ» НА КАНФЭРЭНЦЫІ

Ад 8-га да 10-га сакавіка у горадзе Сарасота (штат Флярыда) на Унівэрсытэце Паўдзённае Флярыды адбывалася сёмая штодвухгадовая канфэрэнцыя амэрыканскіх дасьледнікаў гісторыі й літаратуры пары Рэнэсансу. У канфэрэнцыі ўзяла таксама ўдзел сп-ня Зора Кіпель з дакладам на тэму «Асоба Трыстана ў беларускай вэрсіі аповесьці аб Трыстане». Дакладчыца адзначыла, што ў беларускай вэрсіі, адзінай сяродк усходніх Славянаў, Трыстан адрозьніваецца ад яго ных адпаведнікаў у вэрсіях заходнеэўрапейскіх. У беларускай вэрсіі Трыстан выведзены больш ваяўнічым, спалучаецца з большай колькасьцю трагічных сытуацыяў, асабліва сьмерці жанчынаў, ды ня гэтулькі рыцарскі, як у вэрсіях заходнеэўрапейскіх. Гэтаксама дакладчыца прааналізавала спэцыфічныя беларускія характэрыстыкі гэтага ведамага твору. У дыскусіях былі заўважаныя падабенствы між беларускай вэрсіяй аповесьці і некаторымі элемэнтамі легендаў Ірляндыі і Валіі.

Наагул, факт існаваньня на Беларусі вэрсіі клясычнае аповесьці аб Трыстане, у той час як гэтага твору няма ні на Ўкраіне, ні ў Расеі, ні ў суседніх балтыцкіх краёх, выклікае вялікае зацікаўленьне заходніх дасьледнікаў і дае яшчэ адну вельмі выразную адзнаку шырыні беларускіх літаратурных сувязяў у XVI стагодзьдзі

## ГОСЬЦЯ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Беларусаў Чыкага наведала ў студзені сёлета сп-ня Вацлава Вярбоўская, сцэнарыстка й рэжысэр зь Менску. Яна прыехала ў Амэрыку блізу тры месяцы таму, каб пазнаёміцца з жыцьцём беларускіх асяродкаў.

У нядзелю 14-га студзеня пасьля сьв. Літургіі ў каталіцкай царкве Хрыста Збаўцы парафіяне мелі нагоду спаткацца з госьцяй, паслухаць ейную інфармацыю пра сучаснае палажэньне на Беларусі. Сп-ня Вера Рамук перакладала ў ангельскую мову для тых, хто не разумеў пабеларуску. Слухачы задавалі сп-ні Вярбоўскай процьму пытаньняў. Сьледам за гэтым адбылася сустрэча зь беларускамоўнымі парафіянамі, у часе якой сп-ня Вярбоўская расказала пра сваю рэжысэрскую працу, дала нагоду пачуць частку ейнай радыёдрамы пра трагічную долю Янкі Купалы.

16 студзеня сп-ня Вярбоўская разам са сп-няй Верай Рамук наведалі Інстытут Мастацтва, дзе ўпяршыню госьця пабачыла творы мастака Марка Шагала. Пабылі яны таксама ў Інстытуце Рэгабілітацыі, дзе вісіць Шагалаў габэлен. Сп-ня Вярбоўская была ўзрушаная сустрэчай з мастацтвам Шагала і казала, што напіша аб мастаку п'есу.

На Беларусі чыноўнікі, якія распараджаюцца справамі культуры, ігнаруюць віцьбляніна Шагала, мастака сусьветнае славы, недацэненага на сваёй бацькаўшчыне.

Дзякуючы сп-ні Рамук, удалося наладзіць інтэрв'ю сп-ні Вярбоўскай з Элеанорай Вуд-Прынс, мэцэнаткай ды прыяцелькай Марка Шагала. Інтэрв'ю было зафіксавана на відэайстужку сп. Нікадэмам Жызьнеўскім.

28 студзеня сп-ня Вярбоўская дала інтэрв'ю на беларускай радыёпраграме «Нёман».

**Вір**

# СЫМБОЛІКА І АЎТАРЫ МАРАК БНР

***(Паводля матар'ялаў брытанскага дасьледніка Гая Пікарды)***

У энцыкляпэдычным даведніку «Францыск Скарына і яго час» (Менск, 1988) да артыкулу «Філятэлія і філякартыя» зьмешчаная ілюстрацыя — паштовая марка з партрэтам Ф. Скарыны. Гэта, думаецца, адна зь першых трох марак, выпушчаных урадам БНР у 1918 годзе. Марка з Ф. Скарынам з дэнамінацыяй 2 рублі, іншыя былі з выявою «Пагоні» (3 рублі) і аратага (5 рублёў).

Бальшыня дасьледнікаў пагаджаюцца на тым, што гэта — самыя раньнія паштовыя віньеткі БНР. Такое меркаваньне падтрымваецца чыста беларускім характарам малюнкаў на марках. Маркі гэтыя прызначаліся для ўжытку па цэлай Беларусі, у адрозьнасьць ад БНР-аўскіх марак «Асобнага Атраду», выдадзеных у Рызе ў 1920 годзе.




Што да даты выпуску й месца друку гэных найпершых марак, дык тут паўстаюць разыходжаньні.

На думку Г. Пікарды, пастанова аб іхным выданьні магла быць прынятая ў Менску 19-21 лютага 1918 г., калі быў створаны першы Народны Сакратарыят (урад) Беларусі на чале зь Язэпам Варонкам. З усіх сямёх урадаў БНР пэрыяду 1918-1925 гадоў толькі ў першым быў міністар пошты й тэлеграфу, А. Карач.

Што да аўтараў рысункаў, дык рысунак скарынаўскае маркі мог быць узяты з паштоўкі 1917 году, калі адзначаліся 400-я ўгодкі ад выхаду Скарынавага перакладу Біблії. Тады ў ведамай друкарні М. Кухты ў Вільні выйшла паштоўка з партрэтам Скарыны, выдадзеная Беларускім Выдавецкім Таварыствам. У Вільні было даволі мастакоў і крыніцаў беларускае гісторыі, каб замовіць там зь Менску пасьля сакавіка 1918 году, калі фронт пайшоў далёка на ўсход, і беларускія маркі.

На Вільню, як месца выданьня марак, паказвае таксама й марка з аратым. Аўтарам рысунку яе мог быць адзін з найбольш таленавітых мастакоў Фэрдынанд Рушчыц (1870-1936), які паходзіў з Багданава на Валожыншчыне з каталіцкае сям'і і ўважаў сябе за «тутэйшага».

Рушчыц у сваёй творчасьці шмат увагі прысьвячаў тэмам зямлі і вясковага быту. Імя Рушчыца фігуруе ў каталёгах сьвету, як рысавальніка паштовых марак. Нарысаваная ім марка для эфэмэрнай дзяржавы «Сярэдняй Літвы» (1922 г.), арганізаванае польскім генэралам Жэлігоўскім, вельмі нагадвае БНР-аўскую марку з аратым 1918 году. Дарэчы, вельмі падобны матыў аратага бачым на першым календары «Нашае Нівы» (1910 г.).




Да найбольш прафэсійна выдадзеных марак БНР належыць сэрыя марак, часамі падаваная ў каталёгах Гібанса (S. Gibbons) і інш., з выявою сялянскае пары і надпісам «Асобны Атрад». Сэрыя гэтых марак выйшла ў пяцёх дэнамінацыях (5 кап., 10 к., 15 к., 50 к. і 1 руб., адпаведна зялёная, чырвоная, фіялетавая, блакітная і бурнатая). Рысунак гэтае маркі — работа ведамага латыскага гравёра Р. Сарынша (да рэвалюцыі ведамага як Зарын), які рысаваў шмат якія царскія юбілейныя выпускі, а пасьля — латыскія дый савецкія.




*Марка БНР 1918 году. Рысунак Ф. Рушчыца (?).*

Маркі «Асобнага Атраду» выйшлі стараньнямі палкоўніка Кастуся Езавітава (1893-1946), які ўзначальваў ваенную дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі. Маркі былі прызначаныя для ўжытку галоўна войска БНР, асабліва ў раёне разьмяшчэньня Беларускага батальёну ў Дзьвінску ў усходняй Латвіі (студзень-ліпень 1920 г.).

## ПРА БЕЛАРУСКУЮ МАЛАДЗЕЖНУЮ МУЗЫКУ

Выйшла з друку й прадаецца выданая Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва кніга артыкулаў і нарысаў

### «ПРАЗ РОК-ПРЫЗМУ»

**Вітаўта Мартыненкі і Анатоля Мяльгуя.**

Гэта першая, выданая на эміграцыі, кніга аўтараў, што цяпер жывуць і працуюць на Беларусі. Яны разглядаюць гісторыю рок-музыкі ад яе росту на Захадзе, у краінах «народнае дэмакратыі» ды характарызуюць разьвіцьцё галоўных рок-гуртоў у Беларусі. У кнізе каля 70 здымкаў.

Кніга выдана абмежаваным тыражом. Пра тое, дзе яе купіць у Беларусі, павядомяць зацікаўленыя людзі. У Канадзе можна выпісваць праз «Зважай». Цана — 30 дал. У Злучаных Штатах можна яе купіць у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва. Цана — 25 даляраў. Адрас: 230 Springfield Ave., Rutherford, N.J. 07070, U.S.

# СТУДЭНТЫ Ў ВОЛЬШТЫНЕ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

жніўні, на Спаса, даволі вялікім гуртам падаліся ў паломніцтва на Сьвятую гару Грабарку, дзе разам з іншымі прысутнічалі пры высьвячэньні крыжа, пастаўленага беларускай моладзьдзю.

Да гэтага году вольштынскія студэнты, якіх узначаліў Раман Семянюк, дзейнічалі ў рамках Згуртаваньня Польскіх Студэнтаў, бо толькі гэткім чынам маглі забясьпечыць неабходныя грошы. Усё-ж-такі выдзялілі ўжо ініцыятыўную групу пад кіраўніцтвам Андрэя Малашкевіча дзеля пакліканьня гуртка БАСу.

У дзейнасьці вольштынскіх студэнтаў староньняга наглядальніка зьдзіўляе хуткае ўзьнікненьне магутнага гуртка ў асяродзьдзі, у якім пра аніякую беларушчыну раней чуваць ня было. Растлумачыць гэта можна тым, што ўсё-ж-такі ўсе раней сустракаліся на сяброўскім груньце і ў царкве, ды «эміграцыйным» характарам асяродзьдзя. У далячыні расьце цяга да свайго, роднага. Дзякуючы сваёй рашучасьці, вольштынцы ўмеюць арганізаваць мерапрыемствы для ўсіх беларускіх студэнтаў. У дзейнасьці гуртка бярэ ўдзел 30-40 чалавек. Штораз лепш яны валодаюць роднай мовай, зь якой спачатку ня было найлепш. Больш «граматныя» дзяўчаты, бо ім, у адрозьненьне ад хлопцаў, пашанцавала вывучаць беларускую мову ў сярэдняй школе. Рэгулярна чытаюць «Ніву», «ЛіМ» і «Беларуса».

На 11-м зьездзе БАСу вольштынскі гурток поўнасьцю ўступіў у рады басаўцаў. Старшынём гуртка і адначасова Галоўнае Рады БАСу стаўся Андрэй Малашкевіч. У Галоўную Раду БАСу выбраныя зьездам вольштынцы Валодзя Пац і Мірaслаў Урбановіч.

## «ШТАДЗЁНЬНІК ПАРЫЖУ» ПРА БЕЛАРУСЬ

Газэта «Штадзёньнік Парыжу» (8.II.90), у рубрыцы «Тупікі перабудовы», зьмясьціла выказваньні зь невялікае канфэрэнцыі (арганізаванай карэспандэнтам гэтай газэты Эмэрыкам Фісэ), у якой узялі ўдзел прадстаўнікі Беларусаў (дзьве асобы), Украінцаў і Расейцаў. Журналіст задаваў удзельнікам шмат пытаньняў. Некаторыя адказы на пытаньні былі не даспадобы расейскім удзельнікам. Завязалась войстрая палеміка.

Беларускае глездзішча ў спрэчках прадстаўляў сп. Міхась Наўмовіч, старшыня «Хаўрусу».

Газэта зьмясьціла матар'ял з канфэрэнцыі пад заг. «Бунт Славянаў» з пасненьнем, што Украінцы, Беларусы ды прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў адкідаюць «старэйшага брата» і ягоную перабудову. З таго, што гаварыў сп. Наўмовіч, газэта падала ягонае выказваньне пра русыфікацыю на Беларусі, праблему забруджанага прыроднага наваколья, чарнобыльскую катастрофу ды Курапаты. Наўмовіч сказаў таксама, што ў Беларусі цяпер адбываецца нацыянальнае адраджэньне, аднаўленьне гістарычнае памяці пра Вялікае Княства Літоўскае ды Беларускую Народную Рэспубліку.

## БІБЛІЯ Ў «БЕЛАРУСІ»

Газэта «Голас Радзімы» (№ 3, 18.I.90) падала выказваньне галоўнага рэдактара месячніка «Беларусь» Аляксандра Шабаліна: «З 1990 году ў 'Беларусі' будзе друкавацца 'Біблія' на беларускай мове... Зь яе кожны можа ўзяць для сябе нешта карыснае. Асабліва цяпер, калі многія згубілі ў душы веру ў высокія ідэалы і справядлівасьць, сталі жорсткімі, злымі і няміласэрнымі».

***ЧАРНОБЫЛЬ***

# РАПАРТ МІЖНАРОДНАЙ КАМІСІІ

Фэдэральная Рада Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі зрабіла добрую справу. Старшыня Рады сп. А. Груша зьвярнуўся да аўстралійскага Чырвонага Крыжа з пытаньнем, ці нельга было-б закупіць праз Чырвоны Крыж мэдычнае абсталяваньне й асабістыя дазымэтры для ахвяраў Чарнобыля ў Беларусі. Генэральны сакратар Аўстралійскага Таварыства Чырвонага Крыжа Алэн Маклін адпісаў, што лепш было-б ня купляць у Аўстраліі (бо тады паўстануць пытаньні бясьпекі і кошту перасылкі), а пераказаць грошы ў Жэнэву для цэнтралізаванага закупу мэдыкамэнтаў і іншых рэчаў Лігаю Чырвонага Крыжа й Чырвонага Паўмесяца (ЛЧКЧП), якая займаецца справаю дапамогі ахвярам Чарнобыля. Сп. Маклін далучыў да свайго ліста сьвежы прэсавы камунікат ЛЧКЧП, датаваны 23 студзеня 1990 году. У камунікаце гаворыцца пра наведаньне шасьціасабовай камісіяй экспэртаў рэгіёну чарнобыльскай радыяцыі (РСФСР, БССР і УССР).

Камісія наведала шпіталі і прыватныя кватэры ў паражаных раёнах, правяла гутаркі з савецкімі спэцыялістамі і звычайнымі жыхарамі і сьцьвердзіла, што «паважнай праблемай» для людзей радыяцыйнае зоны сталіся псыхалягічныя мамэнты.

«Галава групы Рэны Нанколяс, дырэктар бюро міжнароднае дапамогі брытанскага Чырвонага Крыжа, — чытаем у камунікаце, — сказаў: 'Хоць людзі маюць, бясспрэчна, фізычныя праблемы, праблемы псыхалягічныя куды большыя, чымся мы спадзяваліся'». Поўны рапарт камісіі будзе апублікаваны пазьней.

Камісія ЛЧКЧП прызнала, што паколькі адразу-ж па аварыі (красавік 1986 г.) савецкія ўлады давалі вельмі мала інфармацыі пра атамны пажар у Чарнобылі, у людзей зарадзіўся глыбокі недавер да афіцыйных дзейнікаў. Апрача таго, тая інфармацыя, якую савецкія крыніцы падаюць жыхарству, часта мае акадэмічны характар і для звычайнага жыхара чарнобыльскае зоны незразумелая. Камісія напатыкалася на частыя выпадкі неразуменьня жыхарамі радыяактыўнасьці і ейных вынікаў, людзі бясконца дапытваюцца інфармацыі і шукаюць запэўненьня. Нястача інфармацыі выклікае псыхалягічнае напружаньне, стрэс, і гэта вядзе да псыхасаматычных захворваньняў.

Камісія парэкамэндавала забясьпечыць жыхарства чарнобыльскае зоны ручнымі дазымэтрамі з дадаткамі да іх для правяраньня ежы, бо магчымасьць спажываньня забруджанае ежы сталася галоўнай крыніцай грамадзкага непакою.

## КАНАДЗКАЯ ГАЗЭТА ПЕРАДРУКОЎВАЕ З BYELORUSSIAN REVIEW

Таронтаўская газэта Speak Up (студзень 1990) поўнасьцяй передрукавала добра напісаны артыкул А. Турэвіча пра Чарнобыль, як пра адну зь дзьвюх найбольшых трагедыяў Беларусі (разам з Курапатамі). Другая частка артыкулу, пра генацыд у Курапатах, зьмешчаная ў «Беларускім Аглядзе» № 4-5. На выданьне гэтае можна падпісацца (гадавая падпіска 15 дал.), пішучы на адрас:

BYELORUSSIAN REVIEW
P.O. Box 10353
Torrance, CA 90505

## У АЎСТРАЛІІ ШУКАЮЦЬ НАЦЫСТАЎСКІХ КАЛЯБАРАНТАЎ

**Абвінавачаны прыхаджанін беларускае парафіі**

У сьнежні 1988 году аўстралійскі Сэнат прыняў папраўку да закону аб ваенных злачынствах. Канчальнаму зацьверджаньню папраўкі парлямантам перашкодаў не прадбачыцца. Тымчасам пракуратура краіны займаецца разглядам шэрагу справаў супраць падазроных ваенных калябарантаў зь Немцамі ў часе апошняе вайны ў Усходняй Эўропе.

Мэльбурнская газэта The Age (27.I) падала, што першая справа, якая будзе разглядацца — гэта абвінавачаньне супраць 73-гадовага Івана Цімафеевіча Палюховіча, які 32 апошнія гады жыў у гор. Адэляйдзе. Палюховіч — прыхаджанін царквы сьв. ап. Пятра й Паўла БАПЦ. Паводля газэты, спрэчным застаецца пытаньне паходжаньня абвінавачанага: з Украіны ён ці зь Беларусі? Прыехаў ён у Аўстралію ў 1949 годзе як Паляк. Абвінавачваюцьжа Палюховіча за ўдзел у расстрэльваньні людзей у 1941-43 гадох каля вёсак Сернікі, Аляксандрава і Брадніца Ровенскай вобласьці на Ўкраіне. Настаяцель прыходу царквы сьв. ап. Пятра й Паўла а. Міхась Бурнос, піша газэта, сказаў, што Палюховіч быў на працягу 25 гадоў прыхаджанінам царквы, ды што ён заўсёды ўважаў Палюховіча за Беларуса. Айцец Бурнос даў яму дадатную характарыстыку. У нядаўна выдадзенай кнізе аўстралійскага аўтара пра нацыстаў, што ўцяклі ў Аўстралію, прозьвішча Палюховіча не названае. Сам Палюховіч кажа, што ён ніколі ня быў жаўнерам. Да выхаду на пэнсію ён працаваў столярам. Палюховіч паводля абвінаваўчага акту, карыстаўся таксама прозьвішчам Іванчанка.

Газэта Sunday Times (18.II), што выходзіць у Зах. Аўстраліі, зьмясьціла тэкст дакумэнту, у якім нямецкі каманьдзер сьветчыць аб расстрэле ў 1941 годзе цывільнага гэбрэйскага жыхарства ў Слуцку. Расстрэлямі займаўся батальлён паліцыі зь літоўскага гораду Коўні.

Зьнішчэньне мірнага жыхарства ў Слуцку, рапартаваў нямецкі афіцэр, праводзілася «зь неапісальнай жорсткасьцяй». Разам з Гэбрэямі карнікі выганялі з дамоў і білі таксама й Беларусаў. «Беларускае жыхарства, якое поўнасьцяй нам верыла, — сказана ў дакумэньце, — цяпер ашаломленае».

## СЬВ. ПАМ. КАСТУСЬ РАНЦЭВІЧ

**23.XI.1920-16.II.1990**

Нарадзіўся нябожчык 23 лістапада 1920 г. ў мястэчку Давыд-Гарадок Берасьцейскай вобласьці. У 1943 годзе яго вывезьлі на работу ў Нямеччыну, дзе ён і застаўся па вайне, жыў у ДП-лягеры ў Балінгэне да 1949 году. Кастусь прыехаў у Аўстралію 15.IX.1949 году, яго паслалі на работу ў Адэляйду. У Балінгэне пакінуў прыяцельку Шарлёту й двухгадовую дачку. Ад'яжджаючы, абяцаў сьцягнуць іх, але абжыўшыся ў Аўстраліі, ажаніўся з Полькай Катажынай. Далучыліся яны з жонкай да Беларусаў у Адэляйдзе, абое бралі актыўны ўдзел у царкоўных і грамадзкіх справах. Катарына добра гутарыла панямецку і пабеларуску, брала ўдзел у канцэртах. Кастусь сьпяваў у царкоўным хоры, працаваў грамадзка. Стараньнямі Кацярыны да Кастуся ў 1966 годзе прыяжджала ў адведзіны 19-гадовая дачка Хрыстына, пісала пасьля ўвесь час да бацькі лісты. Па даўгім часе Кацярына яго пакінула. Жыў сам, а пасьля пазнаёміўся з Марыяй Горскай. Два апошнія гады хварэў, некалькі разоў быў у шпіталі.

На паховіны прыехала дачка Хрыстына. Хавалі 24 лютага. Абрад пахаваньня выканаў а. Міхась Бурнос, настаяцель царквы сьв. ап. Пятра й Паўла БАПЦ. Пахаваны нябожчык на могільніку Чэнтальгайм.

На паховіны прыбыла вялікая грамада людзей. Адбыўся памінальны абед у запоўненай вернікамі прыцаркоўнай залі.

Дарагі Сябра Кастусь, хай пухам будзе Табе аўстралійская зямля. Сьпі пад апекай Госпада Бога. Вечная памяць.

**Уладзімір Акавіты**

Парафія сьв. ап. Пятра й Паўла БАПЦ зь вялікім смуткам паведамляе аб сьмерці сьв. пам. Кастуся Ранцэвіча ў Адэляйдзе. Нябожчык пакінуў у жалобе дачку Хрыстыну, якая жыве ў Зах. Нямеччыне, а таксама блізкую прыяцельку Марыю Горскую і ейную сям'ю. З глыбіні сэрца Беларуская парафія выказвае ім свае найшчырэйшыя спачуваньні.

Вечная памяць Табе, дарагі сябра Кастусь. Хай будзе пухам аўстралійская зямля. Спачывай там, дзе ўсе праведныя спачываюць.

**Парафіяльная Рада**

## «БЕЛАРУСЬ ПАД НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫЯЙ»

**Кніга др. Ю. Туронка**

У польскім выдавецтве «Вэрс» у Варшаве выйшла доктарская праца ведамага беларускага гісторыка Юрыя Туронка «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Гэта грунтоўна ўдакумэнтаванае апісаньне нямецкае палітыкі на Беларусі і спробаў беларускага нацыянальнага актыву весьці працу ды выжываць паміж варожымі агнямі, з заходу і ўсходу.

## ВАРШАЎСКАЯ ФІРМА «БЯПОЛЬ» ПРАПАНУЕ ВІДЭАСУВЯЗЬ З РОДНЫМ КРАЕМ

Пры Беларускім Грамадзка-Культурным Таварыстве (БГКТ) у Варшаве створаная фірма паслугаў для суайчыньнікаў за мяжой. Фірма называецца «Бяполь». Фірма займаецца выкананьнем розных праектаў і індывідуальных заказаў, у тым ліку арганізуе: курсы беларускай і замежных моваў для дзяцей і моладзі; гаспадарчыя каапэратывы; турыстычныя падарожжы ў Польшчы і паза ейнымі межамі; замежны гандлаль.

У фірме можна замовіць фота- або відэарэпартаж пра тую ці іншую мясцовасьць (вёску, горад, гутарку са сваякамі, знаёмымі і г.д.), царкоўныя ці касьцельныя ўрачыстасьці, фэстывалі.

Зварачацца трэба на адрас заснавальніка фірмы «Бяполь» інжынера-электроніка Аўгена Салагубы (Mgr inż. Eugeniusz Sołoguba, ul. Konduktorska 3a m. 78, 00-775 Warszawa, Poland. Tel.: 40-54-57) або на адрас прадпрыемства:

PRZEDSIĘBIORSTWO<br>
PRODUKCYJNO-HANDLOWO-USŁUGOWE<br>
BIAPOL sp. z.o.o.<br>
ul. Starościńska 1B<br>
02-516 Warszawa<br>
POLAND

*ПАДТРЫМВАЮЧЫ «БЕЛАРУСА», ВЫ МАЦУЕЦЕ ЛУЧНАСЬЦЬ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ, ДЗЕ ЛЮДЗІ ШУКАЮЦЬ КАНТАКТАЎ З ВОНКАВЫМ СЬВЕТАМ.*

## БЕЛАРУСКІЯ СЭМІНАРЫСТЫ Ў СЛАВАЧЧЫНЕ

Паводля дамоўленасьці паміж Каталіцкай Біскупскай Канфэрэнцыяй Чэхаславаччыны і савецкімі ўладамі, беларускія кандыдаты ў сьвятары змогуць вучыцца ў новазаснаванай духоўнай сэмінарыі ў славацкім горадзе Сьпіс.

У каталіцкай духоўнай акадэміі ў Рызе цяпер займаецца 25 студэнтаў-Беларусаў, некаторыя зь якіх нацыянальна сьведамыя.

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Выйшаў з друку БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ СЛОЎНІК аўтарства др. Янкі Станкевіча. 1306 бачынаў. Цана: 40 дал. + перасылка. Кошт перасылкі: у ЗША — 1,60 дал., у іншыя краі — 3,20 дал.

Асноўная мэта слоўніка — пазнаёміць самых-жа Беларусаў з багацьцем свае мовы, адыграць ролю вычарпальнага тлумачальнага слоўніка беларускае народнае мовы на ўсім працягу яе карыстаньня.

Пры ўкладаньні слоўніка аўтар карыстаўся гэткімі крыніцамі: этнаграфічнымі й гістарычнымі працамі; стара-беларускай літаратурнай і народнай мовай; творамі сучаснае беларускае літаратуры; слоўнікамі І. Насовіча, В. Ластоўскага, Байкова-Някрашэвіча; беларускімі краёвымі слоўнікамі Магілеўшчыны, Мсьціслаўшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чэрвеншчыны, Лагойшчыны і інш.; сваімі запісамі беларускіх слоў.

Слоўнік можна замовіць, пішучы на адрас:

Mr. Wm. Stankevich<br>
9364 Tartan View Dr.<br>
Fairfax, Va 22032 (U.S.A.)

Чэк на 40 дал. (+ перасылка) просім выпісваць на: Lew Sapieha Great-litvan (Byelorussian) Foundation.

З пашанаю

Фундацыя імя Лява Сапегі —

**Юрка, Вячаслаў і Багуслаў Станкевічы**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Г. Руднік | 100 |
| В. і М. Махнач | 100 |
| Н. Кудасава | 60 |
| А. Орса-Рамана заміж кветак на магілу с.п. А. Верабей | 50 |
| А. Орса-Рамана заміж кветак на магілу с.п. З. Станкевіч | 50 |
| М. Вайтовіч | 50 |
| В. і В. Рамук заміж кветак на магілу с.п. Я. Пазьняка | 40 |
| М. Занкавіч | 35 |
| В. Багдан | 30 |
| Б. Паўк | 20 |
| А. Кузьміч | 20 |
| Ю. Станкевіч | 20 |
| М. Нікан | аўстр.д. 20 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| В. і Н. Стома заміж кветак на магілы с.п. Н. Орса і с.п. А. Верабей | 40 |
| Р. Галяк заміж кветак на магілу с.п. Н. Орса | 25 |
| В. Русак | 50 |
| М. Чатырка | 40 |
| Я. Дзядовіч у памяць дарагога мужа Дзімітра | 30 |
| М. Каранеўскі | 30 |
| У. Машанскі | 30 |
| Ю. Наумчык | 25 |
| Д. Дашкевіч | 25 |
| Г. Бахар | 25 |
| В. Артон | 25 |
| Я. Сажыч | 25 |
| В. Пелеса | 25 |
| А. Якімовіч | 25 |
| А. Балкоўскі | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| А. Шурак | 20 |
| А. Завістовіч | 20 |
| А. Кучура | 20 |
| В. Каракулька | 20 |
| П. Нягода | 20 |
| Г. Дубяга | 20 |
| Л. Грант | 20 |
| Я. Яновіч | 20 |
| Я. Літвіненка | 20 |
| М. Сіцько | 20 |
| П. Талмачэвец | 20 |
| В. Цярпіцкі | 20 |
| М. К. | 10 |

**КАНАДА**

| | |
|---|---|
| В. Касьцюкевіч | 20 |
| А. Хрэноўскі | 20 |
| Усяго | 770 |

*Папраўка:* У прозьвішчы ахвярадаўца сп. Касьцюка ў № 366 быў памылковы ініцыял ягонага імя, трэба — М.

Усім шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя**

## ПРАКТЫЧНЫ ПАДЫХОД ДА ЗДАРОЎЯ

На пачатку году сёлета ў Нью-Ёрку пачаў выходзіць расейскамоўны месячны часапіс папулярнай мэдыцыны «Ваше здоровье» (цана нумару: 2 дал.). Часапіс ілюстраваны. Рэдагуецца цікава, чытаецца лёгка і мае ў сабе масу практычных парадаў. Гадавая падпіска: 24 дал. Адрыс рэдакцыі:

VASHE ZDOROV'E<br>
108-12 Queens Blvd. Suite 192<br>
Forest Hills, NY 11374<br>
Tel.: (718) 592-8474

**Просьба!**

*Добравольна, бяз прымусу*<br>
*Памажэце «Беларусу»!*<br>
*Хто ня плаціць, а чытае,*<br>
*Гэтым нам не памагае.*<br>
*Каб пушчаць у сьвет газэту,*<br>
*Трэба гнаць, браткі, манэту.*<br>
*А каб ня губляць Вам твару,*<br>
*То прышлеце і ахвяру.*<br>
*Чакаем —*

**Адміністрацыя**

## ПАДПІСКА НА НЕФАРМАЛЬНЫЯ ВЫДАНЬНІ

Газэта БЕЛАРУС прапануе сваім чытачом падпіску на нефармальныя выданьні зь Беларусі:

«Навіны БНФ», «Абуджэньне», «Шлях», «Кантакт», «Студэнцкая Думка», «Супольнасьць», «Прамень», «Рэанімова», «Весткі Адраджэньня», «Літаратура», «Хрысьціянскія Навіны», «Праваслаўная Думка», «Голас Беларуса», «Грунвальд» і інш.

Цана гадавое падпіскі: 10 даляраў.

Чэкі просім выпісваць на газэту «Беларус» з зазначэньнем, што гэта на «нефармальныя выданьні» (unofficial publications) і перасылаць на адрас адміністрацыі газэты.